+тэлепраграма № 38 (300) 11 кастрычніка 2002 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№300



У НУМАРЫ

## Букет Малдавіі



Старонка 7.

## Адхіленьне генэрала

**Адхіленьне ад пасады начальніка Сьледчага камітэту пры МУС Леаніда Глухоўскага тлумачаць выяўленымі фактамі датычнасьці вышэйшых міліцэйскіх чыноў да карупцыі ў цэлюлёзна-папяровай прамысловасьці Гомельшчыны. Але звальненьне Глухоўскага мае і палітычны падтэкст.** Старонка 3.

## Выбары ідуць

**Цэнтральная выбарчая камісія рэкамэндавала Аляксандру Лукашэнку прызначыць першы тур выбараў у мясцовыя саветы на 2 сакавіка 2003 г. Адпаведны ўказ мае зьявіцца сёлета — не пазьней за 2 сьнежня. "Калі мы прызначым выбары на тыдзень раней, другі тур выпадзе на 8 сакавіка — сябры камісіяў у асноўным жанчыны, таму не хацелася б адбіраць у іх сьвята. Калі на два тыдні раней — выбары выпадаюць на 23 лютага. З чыста прагматычных меркаваньняў мы і спыніліся на 2 сакавіка", — патлумачыў сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.** Старонка 4.

## Народны мэмарыял



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Старонка 5.

# Затрыманая Натальля Шаўко

**Нямецкія памежнікі затрымалі пры перасячэньні мяжы ФРГ грамадзянку Беларусі Натальлю Судлянкову (Шаўко) — былую ўладальніцу кампаніі "Фіко".**

Натальля Шаўко — выпускніца хімфаку БДУ, пасьля заканчэньня якога працавала на заводзе "Ўдарнік". Зорным часам для Шаўко быў пачатак 1990-х гадоў, калі яна пайшла ў бізнэс. Фінансава-інвэстыцыйная кампанія "Фіко" пасьпяхова разьвівалася, а імя ейнай прэзыдэнткі Натальлі Шаўко сталася вядомым. Інтэрвію зь ёй у той час зьмяшчалі многія правыя газэты, якім імпанавала падтрымка ёю дэмакратычных партый.

Шаўко яшчэ ў канцы 1980-х брала ўдзел у дзейнасьці легендарнай арганізацыі "Талака", пасьля была прыхільніцай БНФ. Знаходзячыся на пасадзе прэзыдэнта буйной фірмы, Натальля Шаўко дапамагала нацыянальнаму руху фінансава.

Пасьля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі фірма "Фіко" трапіла пад крымінальную справу. У выніку гэтага ў 1999 годзе Натальля Шаўко разам зь сям'ёй выехала за мяжу, атрымала палітычны прытулак у Чэхіі, дзе і жыла апошнія тры гады. Затрыманая яна была падчас перасячэньня чэска-нямецкай мяжы. Аказалася, беларускія ўлады шукалі яе праз Інтэрпол і дамагаліся выдачы ў Беларусь.

Дырэктар Беларускай службы радыё "Свабода" Аляксандар Лукашук заявіў у этэры, што лічыць арышт Н.Судлянковай палітычна матываваным. На ягоную думку, улады Беларусі імкнуцца пакараць яе і за мінулую дзейнасьць, і за сёньняшнюю — апошнім часам Натальля рабіла рэпартажы для радыё "Свабода".

Цяпер лёс Судлянковай вырашыць нямецкі суд. У яе абарону ўжо выступілі праваабарончыя арганізацыі і чэскія ўлады.

**Алег Тачоны**



**Кніга вершаў Андрэя Хадановіча "Лісты з-пад коўдры" пабачыла сьвет не па-беларуску, а па-ўкраінску. Для яе прасоўваньня на рынку выдавецтва "Факт" запрасіла беларускага паэта выступіць з прэзэнтацыямі ў Львове, Івана-Франкоўску, Кіеве і Харкаве. Андрэй Хадановіч — пра сталіцу Ўкраіны, Даніла Жукоўскі — пра кнігу, што ня выйшла.** Старонка 14.

## Хадановіч

камэнтары

# Трывожная перамога

На выбарах у Латвіі "народны фронт" у чарговы раз здабыў пераканаўчую перамогу над "інтэрфронтам". Аднак прарасейская партыя ўпершыню змагла заваяваць чвэрць месцаў у парлямэнце. Адначасова рэзка здалі пазыцыі латыскія нацыяналісты. Затое добры збор галасоў у кааліцыі зялёных і сялянаў, якія выступаюць супраць уступленьня краіны ў Эўразьвяз і *NATO*. Прайшла ў парлямэнт і хрысьціянская — рэлігійная партыя.

За ЗПЧСЛ галасавалі 185,5 тыс. выбарцаў, тады як без грамадзянства ўсё яшчэ застаюцца 514 тыс. жыхароў Латвіі. Посьпех новага "інтэрфронту" практычна пазбаўляе іх шанцаў на натуралізацыю, якая ператварыла б Латвію ў Прыднястроўе. Крыніца неляяльнасьці ўнутры краіны застаецца. Зь нестабільнасьці ў былых савецкіх рэспубліках — ад Украіны да Грузіі — Расея заўжды выцягвала палітычны капітал. Стаўка на стварэньне прарасейскіх парлямэнцкіх партый у краінах СНД апраўдала сябе ў вачах Масквы.

**Барыс Тумар**

**Вынікі выбараў у Латвіі, колькасьць мандатаў**

| | |
|---|---|
| "Новая пара́" (лібэралы) | 26 |
| "За правы чалавека ў супольнай Латвіі" | 24 |
| Нацыянальная партыя (кансэрватары) | 21 |
| Саюз зялёных і сялянаў | 12 |
| Першая латвійская партыя (хрысьціянская) | 10 |
| "За Айчыну й волю" (нацыяналісты) | 7 |

# Краіна базарнікаў

**Агульнанацыянальны страйк прыватных прадпрымальнікаў зьвярнуў увагу на гэтую невялікую, але актыўную групу людзей. Якая іхная роля ў сучаснай Беларусі?**

Сёньня беларусаў ратуе пэсымізм. Калі аптыміст, які чакае толькі паляпшэньня, у выпадку няўдачы можа "зламацца", пэсыміст заўсёды выжыве, бо псыхалягічна гатовы да самага горшага. Нават падчас падвышэньня заробкаў і пэнсій у 2001 г. сацыёлягі фіксавалі павелічэньне колькасьці людзей, якія лічаць, што іхны матэрыяльны стан пагаршаецца.

Найбольш яскравыя прадстаўнікі такой жыцьцёвай філязофіі – калгасьнікі, хоць і рабочыя, і бюракратыя з інтэлігенцыяй недалёка адышлі. Сапраўднымі ж іх антаганістамі сталіся нашыя гандляры. На сёньня яны тая сацыяльная сіла, якой ёсьць што губляць і якая найбольш зацікаўлена ў пераменах. Менавіта "дробнай буржуазіі" наканавана стаць каталізатарам беларускага прагрэсу.

Нягледзячы на непрыхільнасьць да "вашывых блох", дробнае прадпрымальніцтва пасьпяхова "распаўзлося" па ўсёй Беларусі. "Базарнаму бізнэсу" спрыялі заняпад сацыялістычных прадпрыемстваў (у тым ліку гандлёвых) ды адсутнасьць умоваў для разьвіцьця прыватнай вытворчасьці і буйнога капіталу.

Маштабы Беларусі пярэчаць расейскаму шляху разьвіцьця — алігархічна-карумпаванаму капіталізму. Тут няма вялізарных сыравінных запасаў, эўразійскіх адлегласьцяў і крымінальнае традыцыі, псыхалягічных крайнасьцяў і сацыяльных кантрастаў. І калі нашай усходняй суседцы і гісторыяй, і геаграфіяй, і самім лёсам наканавана быць краінай мільярдэраў і бамжоў, то ў нас — іншыя пэрспэктывы. Лёс Беларусі — быць краінай "базарнікаў" і дробных гаспадароў. Галоўны іх клопат — гандаль, транзыт, камунікацыя, перапрацоўка, што ў інфармацыйную эпоху ня самае горшае. Большасьць беларусаў зразумелі перавагі жыцьця ў невялікай, але сваёй дзяржаве ў параўнаньні з "гіганцкай і бурнай" краінай, дзе кожны дзень нейкая бура, падае ці выбухае. Усё гэта цікава назіраць праз тэлевізар, а не з-пад руінаў уласнага дому.

Эвалюцыя Беларусі пакуль застыла на адзнацы "аўтакратыя", хоць "вашывыя блохі", апазыцыянэры, журналісты ды іншыя нацыяналісты робяць сваю ціхую справу. Нам няма куды дзецца, апроч як прызямліцца на нашым законным месцы. Вось нашы суседзі расьселіся за вялікім "сталом" — Эўропай і пачалі ўжо бяседаваць, а Беларусі ўсё няма. Як заўсёды, спазьняецца, завіхаецца па гаспадарцы, але зьявіцца — пэўна.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

пытаньне — адказ

## Дзе пахрысьціць дзіця

**Ня ведаю, да каго яшчэ магу зьвярнуцца з маім пытаньнем, таму спадзяюся толькі на вашу дапамогу.** Справа ў тым, што я хачу пахрысьціць сына ў беларускай царкве, але ня ведаю, ці ёсьць такая ў Менску. Мы з мужам выхоўваліся ў часы атэізму, таму ў цэрквы ня ходзім. Але самі хрышчаныя, праваслаўныя, таму жадаем, каб і наш сын быў праваслаўным. Мы беларусы, нарадзіліся тут, і для нас важна, каб наша дзіця хрысьцілі ў нашай царкве.

**А.Вееўнік, Менск**

**Ад рэдакцыі. Пахрысьціць дзіця па-беларуску паводле праваслаўнага абраду ў Менску можна ў Петрапаўлаўскай царкве (вул. Няміга, 4), загадзя зьвярнуўшыся да настаяцеля а.Георгія Латушкі, а таксама ў Катэдральным Сьвята-Духавым саборы (вул. Кірыла і Мятода, 5). Зьвяртацца да а.Сяргея Гардуна ці а.Аляксандра Шымбалёва.**

## пацярпелыя за Беларусь

11 верасьня "за абразу гонару і годнасьці" начальніка міліцыі Астравецкага РУУС Уладзімера Кобрынца быў асуджаны прадстаўнік Беларускага рэспубліканскага клюбу выбарцаў у Астраўцы Іван Крук. 15 сутак арышту за ўдзел у пікеце каля расейскага пасольства атрымаў маладафронтавец Зьміцер Дашкевіч. 12 верасьня судзьдзя Чыгуначнага суду Віцебску Сьвятлана Туфан вынесла прысуды сябрам АГП: Аляксандар Кабяк, Яўген Канстанцінаў, Аксана Краўцова, Надзея Шакаліс і Алег Шульгін атрымалі адміністрацыйныя папярэджаньні, Вадзім Краўцоў і Аляксандар Бакулін – па 150 базавых адзінак штрафу. 16 верасьня за несанкцыянаванае пікетаваньне Адміністрацыі прэзыдэнта былі затрыманыя Георгі Саламенік, Міхаіл Тарасюк, Зьміцер Філіповіч. Ім вынесьлі папярэджаньні. 29 верасьня ў Менску затрыманыя ўдзельнікі несанкцыянаванага мітынгу ў абарону незалежнасьці Беларусі: Зьдзіслаў Абрэмскі, Юрась Беленькі, Валеры Буйвал, Кастусь Кашэль і Ўладзімер Плотнікаў. Усе затрыманыя былі асуджаныя на 3 сутак адміністрацыйнага арышту.

# з усёй краіны

### Карова ў студні

**Бяда зваліласяна галаву жыхара вёскі Азярцо, што на Івацэвіччыне, Васіля Шашука.** Яго карова пасьвілася на закінутай безгаспадарнай сядзібе і правалілася ў неглыбокую пустую студню, прыкрытую лістамі шыфэру. Вяскоўцы, узброіўшыся вяроўкамі, спрабавалі вызваліць жывёліну з пасткі, але якая там сіла ў пэнсіянэраў. Тады выклікалі ратавальнікаў з МНС. Тыя спачатку адкапалі калодежнае кольца, а потым з дапамогай бандажных паясоў выцягнулі цэлую і здаровую палоньніцу на паверхню.

### Бунт на фэрме

**Страцілі цярплівасьць працаўнікі цэнтральнай фэрмы калгасу "Быценскі" (Івацэвіччына). Даяркі адмовіліся раніцай даіць кароў, бо ад жніўня ня бачылі заробкаў.** Статак выгналі на пашу нядоеным. Для душэўнай гутаркі з рашучымі жывёлаводамі прыехаў старшыня калгасу. Не абяцаючы ім грошай, ён даходліва і натхёна гаварыў пра цяжкае фінансавае становішча гаспадаркі. Вось апошнім разам завезьлі на мясакабінат цэлую "Калхіду" жывёлы, атрымалі чатыры мільёны рублёў, дык патрацілі іх на салярку і запчасткі, апраўдваўся кіраўнік. Выпусьціўшы пару ўсьвісток, даяркі на вячэрнюю дойку прыйшлі: каровы ж ня вінныя.

**Алесь Лаўранюк, Івацэвічы**

### Восем беспрацоўных настаўнікаў

**У смургонскім Цэнтры занятасьці на ўліку стаяць 8 настаўнікаў.** Шасьцёра зь іх — настаўнікі пачатковай школы, якіх скарацілі таму, што ўсё меней дзяцей ідзе ў першую клясу. Адна настаўніца ангельскай мовы, якой прапанавалі працу па спэцыяльнасьці, не згадзілася ісьці ў школу, бо хоча быць перакладчыцай. Мае рацыю, ды ў нас у Смургонях такія наагул не патрабуюцца. Яшчэ адзін настаўнік расейскай мовы не пажадаў ехаць у вёску. Сядзіць хоць бяз працы, але ў горадзе.

### Жывая рыба

**Цэнтральны гастраном "Юбілейны" вырашыў вярнуць былога пакупніка, які апошнім часам усё больш па прыватных крамах шастае.** Дык паставілі вялізны акварыюм на 330 літраў з карасямі і карпамі, што пастаўляе Сольскі рыбхоз. Нідзе ў горадзе такога няма. Ходзяць людзі, дзівяцца і купляюць з ахвотай. Бо каштуе танна — 3100 рублёў за кілю. Рыбу будуць прадаваць аж да лістапада. Увесь астатні час акварыюм будзе ўпрыгожваць інтэр'ер адной з найстарэйшых смургонскіх крамаў.

### Гарэліца-весялуха

**Алькаголікаў у Смургонях штогод большае.** Калі ў 2001-м за тры летнія месяцы на ўлік у наркалягічны кабінэт трапіла 39 пітушчых, дык сёлета — амаль удвая болей: 71 чалавек запісаўся да мясцовага нарколяга Сяргея Чыкіна. І толькі два зь іх прыйшлі "здавацца" добраахвотна, без прымусу. З прычыны пабытавага п'янства пастаўлена на ўлік 7 падлеткаў 14—18 гадоў (летась было зарэгістравана чацьвёра).

### Чыстыя вэтэраны

**Прыемная навіна для вэтэранаў другой сусьветнай вайны — днямі смургонскія ўлады вырашылі браць зь іх толькі 50% грошай за наведваньне дзяржаўных цырульняў і лазьні.** Патрэбная справа, бо ня так шмат іх засталося: 218 на раён, зь якіх у саміх Смургонях — 118.

### Новы ксёндз

**У смургонскім касьцёле Міхала Арханёла служыць цяпер ксёндз Зьдзіслаў Вэдэр.** Ён прыехаў з Масквы, дзе 10 гадоў працаваў адказным настаяцелем усіх прадстаўнікоў Ордэна Салезьянцаў на тэрыторыі былога Саюзу. Да гэтага выконваў свае абавязкі ў Варшаве, Лодзі, Люблıне. Яму 67 год, 40 зь якіх ён — сьвятар. Айцец Генрык Куляшэвіч, які служыў у Смургонях дагэтуль, стаміўся. Стан здароўя вымусіў яго пакінуць пасаду ў ягоныя 73 гадоў. Ён вярнуўся ў Польшчу.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### Вакол Каложы пачысьцела

**Гарадзенская моладзь прыбрала сьмецьце вакол Каложы. Сабралі 40 пакетаў шкляных і плястыкавых бутэлек, недапалкаў і іншых "сьлядоў" наведнікаў Новага парку, што побач з храмам.** Сьвятар Барысаглебскай царквы паабяцаў знайсьці машыну для вывазу сьмецьця. Моладзь змайстравала і ўсталявала ля Каложы сьметніцу. Дагэтуль ніводнае паблізу не было. Між тым, Новы парк — папулярны ў аматараў адпачынку на прыродзе раён места. Вось і трапляюць пустыя бутэлькі й недаедкі не ў пераапрацоўку ці на звалку, а на зямлю ці ў Нёман.

**Валеры Руселік, "Хроніка Гарадзеншчыны"**



### Exegi monumentum

**На Пашкоўскіх могілках усталяваны надмагільны помнік з выявай, а таксама імем і прозьвішчам яшчэ жывога дырэктара Магілёўскага гарадзкога прадпрыемства рытуальных паслугаў.** Злавесная прадбачлівасьць, навеяная працоўнымі абавязкамі, ці вернае ўкладаньне капіталу, ці...

**"Вячэрні Магілёў"**

### Кожны восьмы

**Кожны восьмы жыхар Бялынічаў, паводле зьвестак ДАІ, мае легкавы аўтамабіль.** За апошнія 5 гадоў колькасьць уласных "легкавікоў" у раёне павялічылася на 35% і складае каля 3000 адзінак. У асноўным гэта старыя танныя "іншамаркі".

### Каплічка сьвятога Юр'я

**На могілках вёскі Карытніца (Бялынiччына) асьвяцілі праваслаўную каплічку ў гонар сьвятога Юр'я.** Амаль тры дзесяцігодзьдзі яна была закінутая. Вяскоўцы адрамантавалі сьвятыню, якой, паводле тутэйшых паданьняў, ня менш за трыста гадоў, на ўласныя сродкі. Дапамагло й мясцовае лясьніцтва.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

### Глуск у Сеціве

**У Глускім раёне налічваецца з 20 карыстальнікаў Інтэрнэту.** Наўрад ці ў найбліжэйшы час іх колькасьць павялічыцца, бо на тэлефонным перамоўным пункце, нягледзячы на адпаведную абвестку, паслугі карыстаньня Інтэрнэтам і электроннай поштай не прадастаўляюцца.

**"Радзіма", Глуск**

### Гарадзенскі вэрнісаж

**У першыя дні кастрычніка ў выставачнай залі Гарадзенскага Саюзу мастакоў (вул.Ажэшкі) адкрылася выстава "Восеньскі вэрнісаж",** на якой можна пабачыць новыя творы каваля Юрася Мацка, мастакоў Фэлікса Янушкевіча, Уладзімера Скамарошчанкі (аўтар "НН") і іншых. Вэрнісаж можна пабачыць цягам месяца.

**Андрэй Мялешка, Горадня**

### Кабэльнае ТБ ў Астраўцы

**Тыдзень таму ў трох дамах астравецкага мікрараёну Валадарскага ўключылі кабэльнае тэлебачаньне.** Праўда, пакуль што ў якасьці экспэрымэнту. Абанэнцкай платы за яго не бяруць, і пра падключэньне астатніх дамоў у райцэнтры гаворка ня йдзе, бо на гэта няма грошай у астравецкай камунальнай гаспадаркі.

### Сабака і сьпірт

**У лесе ў зоне дзеяньня Астравецкай памежнай камэндатуры быў знойдзены сьпірт.** Памежнікі выявілі схаваныя ў поліэтыленавых бутэльках 150 літраў сьпірту пры дапамозе службовага сабакі. Мяркуецца, што кантрабандысты спрабавалі пераправіць прадукт у Літву. Сьпірт перададзены ў міліцыю.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Працэс Аксёнчыка будзе зачыненым

**Працэс па справе былога адваката сям'і Завадзкіх Ігара Аксёнчыка будзе зачыненым.** Яго абвінавачваюць у паклёпе на генпракурора Віктара Шэймана. І.Аксёнчыку пагражае зьняволеньне на тэрмін да 2 гадоў.

### Справа супраць Коктыш

**Журналістка газэты "Народная воля" Марына Коктыш была выкліканая на допыт у Генэральную пракуратуру.** Яе хочуць прыцягнуць як сьведку і падазроную ў крымінальнай справе супраць экс-дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава. Сьледчыя мяркуюць, што ў інтэрвію з арыштаваным журналістка парушыла артыкул Крымінальнага кодэксу "Аб утрыманьні пад вартай" і давяла да шырокага ведама матэрыялы сьледства.

### "Вежа"

**Фонд рэгіянальнага разьвіцьця "Наша вежа" зьявіўся замест зачыненага Берасьцейскага абласнога цэнтру падтрымкі грамадзянскіх ініцыятыў "Вежа".** На чале фонду — Іна Кулей.

### Новыя консульствы

**Да канца году Беларусь адкрые генконсульства ў Стамбуле.** На чарзе — консульствы ў Атэнах, Барсэлёне, Мюнхене. Консульская служба Беларусі ёсьць у 47 краінах сьвету, візавыя зборы кампэнсуюць 60% бюджэту нашых дыппрадстаўніцтваў за мяжой.

### Краінаў Эўразьвязу — 25

**У 2004 г. у Эўразьвяз прымуць Кіпр, Чэхію, Эстонію. Латвію, Літву, Мальту, Польшчу, Славаччыну, Славенію і Вугоршчыну.** Такое рашэньне прыняла эўракамісія. Такіх чынам, праз два гады Эўразьвяз выйдзе да межаў Беларусі.

### Вайна з Іракам ня выключаная



**У штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку працягваецца выпрацоўка рэзалюцыі, якая б змусіла Ірак да безумоўнага супрацоўніцтва з інспэктарамі ААН.** Паводле апошніх зьвестак, Кітай і Расея ўжо згодныя падтрымаць жорсткі праект рэзалюцыі, прапанаваны ЗША і Вялікай Брытаніяй. Згодна зь ім, ЗША будуць мець магчымасьць абвясьціць вайну Садаму, калі той ня пусьціць інспэктараў у свае палацы.

### Левыя супраць вайны

**Пасьля закліку 370 амэрыканскіх інтэлектуалаў 120 іх нямецкіх калег выступілі з адозвай супраць распальваньня вайны з Іракам і палітыкі Буша ўвогуле.** У ліку падпісантаў набэліст Гюнтэр Грас, філёзаф Юрген Габэмас, кіраўніца нямецкага ПЭН-клюбу Ёгана Штрасэр, пастар Фрыдрых Шорлемэр, рэжысэр Юрген Флім.

### Сьпяваем па-беларуску

**Таварыства беларускай мовы пастанавіла правесьці ў кастрычніку месячнік "Сьпяваем па-беларуску".** ТБМ заклікае слухаць, сьпяваць і трансьляваць песьні па-беларуску!

### Цячэ вада ў ярок

**Фэстываль беларускай песьні, прысьвечаны 120-годзьдзю Купалы і Коласа, адбыўся ў Вільні** з удзелам і пры актыўнай падтрымцы пасла У.Гаркуна і кіраўніцтва гораду.



### Расейскі шпіён у Літве

**Зь Літвы выслалі грамадзяніна Расеі Андрэя Кубачава, які зьбіраў інфармацыю аб прадпрыемствах энэргетычнага комплексу краіны, прызначаных для прыватызацыі.** Ён меў другі пашпарт на імя грамадзяніна Галяндыі Андрэа Хамейлава.

### Экстравагансы

**За паўгоду існаваньня "пасольства Месяца" ў Беларусі жыхары нашай краіны набылі 18 участкаў на спадарожніку Зямлі.** Стандартны загон на бачным баку Месяца памерам 72 гектары каштуе 99 даляраў.

### Музэй Луцкевіча адновяць

**Пастанову пра аднаўленьне музэю Івана Луцкевіча ў Вільні прыняў камітэт літоўскага парлямэнту па справах адукацыі й культуры.** Ініцыятары спадзяюцца атрымаць пад музэй славутыя Базыльянскія муры ля Вострай Брамы.

### Азону прыбавілася

**Азонавая дзірка над Антарктыдай падзялілася на дзьве меншыя.** Азонавы слой, паводле зьвестак *NASA*, над паўднёвым полюсам Зямлі цяпер найбольшы з 1988 г.

### Беразоўскі пайшоў па сьлядах Чайкі

**Расейскі алігарх Беразоўскі выдаў за свой кошт кніжную вэрсію раману Праханава "Пан гексаген".** У адрозьненьне ад газэтнае вэрсіі, кніга пазбылася антысэміцкіх выразаў. Газэта *"Завтра"*, рэдагаваная Праханавым, цяпер заклікае камуністаў прыняць падтрымку, якую прапануе ім апальны алігарх.

### Трагічны выпадак

**На зьвераформах Фінляндыі ў мінулыя выходныя памерлі калі 20 тыс. лісаў.** Гэта самы масавы выпадак атручаньня жывёлаў у краіне—экспартэры лісінага футра. Прычынай захворваньня стала харчовае атручаньне.



**Паводле БелаПАН, радыё "Свабода", *"Reuters"* і ўл. інф.**

# Адхіленьне генэрала

Працяг са старонкі 1.

Генэрал-маёр, намесьнік міністра ўнутраных справаў Леанід Глухоўскі працаваць у міліцыі пачаў менавіта ў Гомелі — спачатку простым сьледчым, а пасьля намесьнікам кіраўніка сьледчага камітэту абласной управы МУС. Адтуль ён абіраўся ў палату прадстаўнікоў. Пераехаўшы ў Менск, Глухоўскі захаваў старыя сувязі ў гомельскай міліцыі. Яшчэ нядаўна ён высока ацэньваў працу ўправы Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю Гомельскай вобласьці, а тут яе начальнік палкоўнік Уладзімер Карцаў быў адхілены ад сваіх абавязкаў. Зразумела, нядбайнасьць гомельскіх міліцыянтаў не магла не ўдарыць па Глухоўскім. Невядома толькі, у што выльецца для яго гэтая справа і ці давядзецца міліцэйскаму генэралу разьвітацца з пасадай і прывабнымі пэрспэктывамі службовага росту.

Генэрал Глухоўскі нарадзіўся ў Туркмэніі. Ягоная роля ва ўнутранай палітыцы Беларусі апошніх гадоў была змрочнаю: ён меў непасрэднае дачыненьне да шэрагу гучных палітычных справаў (Старавойтава, Чыгіроў).

Глухоўскага можна сьмела назваць чалавекам, які "шмат ведае". Аднойчы ён зазначаў, што праца яму "падабаецца, хоць і вельмі цяжкая". Ці давядзецца генэрал-маёру шукаць "лёгкую працу", залежыць ад кіраўніка дзяржаўнай камісіі Анатоля Тозіка. Да 15 сьнежня той мусіць паінфармаваць А.Лукашэнку пра вынікі праверкі.



Адхіленьне ад пасады начальніка Сьледчага камітэту Леаніда Глухоўскага, безумоўна, можна параўнаць зь ціхаю адстаўкай генэрала Сівакова. Ні першага, ні другога генэрала цывільныя не шкадуюць.

**Алег Тачоны**

# Бюракраты здужалі вытворцаў

**Стварэньне падкантрольнай расейскаму бізнэсу "Белавескай харчовай кампаніі" ("Бюракраты процi вытворцаў", "НН" №34 за 13 верасьня) набірае ходу: 4 кастрычніка быў зламаны супраціў Пружанскага малочнага камбінату, які не жадаў аддаваць свае акцыі ў рукі расейцаў.**




Сёньня прадпрыемствы ня толькі Пружанскага, але й Камянецкага ды Кобрынскага раёнаў маюць шанец далучыцца да навасьпечанай "імпэрыі". Пружанскі кансэрвавы ды Лінаўскі крухмальны заводы, Пружанская райаграпрамтэхніка ды Пружанскі малочны камбінат ужо аддалі свае акцыі ў даверчае кіраваньне "Белавескай харчовай кампаніі". Першыя тры здаліся бяз бою, апошні трымаўся з усіх сілаў. Першы сход акцыянэраў Пружанскага малочнага камбінату ў ліпені не набраў кворуму, другі ў жніўні прапанову ўвайсьці ў кампанію адхіліў. Пружанская раённая адміністрацыя, зацікаўленая ў пасьпяховасьці тае кампаніі, добра падрыхтавалася да сходу акцыянэраў малочнага заводу 4 кастрычніка, бо ведала, што сілы ня мае: дзяржаве належыць толькі 8% заводзкіх акцыяў. Былі праведзеныя закулісныя перамовы зь берасьцейскімі абласнымі ўладамі, якія перадалі завод у фармальнае падпарадкаваньне раённым уладам. Паралельна раённае начальства пачало прымушаць старшыняў калгасаў ды дырэктараў саўгасаў, што трымаюць заводзкія акцыі, аддаць галасы на карысьць уступленьня ў "Белавескую харчовую кампанію".

Працяг на старонцы 6.

# "Слаўнафту" чакае прыватызацыя

**Расейскія акцыі беларуска-расейскай нафтавай кампаніі "Слаўнафта" будуць прададзеныя. Гэтую інфармацыю пацьвердзілі ва ўрадзе Расеі.**



**Юры Суханаў хутка пярастане падпарадкоўвацца Міхаілу Касьянаву**

Гэта апошняя з буйных нафтавых кампаніяў Расеі, што належала дзяржаве. Расейскі ўрад меў у ёй 74,95% акцыяў на агульную суму ня менш за 1,3 млрд. даляраў. Гэтыя грошы маюць дапамагчы Крамлю выплаціць пазыкі заходнім крэдыторам у 2003 г. Налета Расея мусіць выплаціць 17,3 млрд. даляраў па замежнай запазычанасьці (10,8 млрд. — асноўная запазычанасьць, астатняе — нарослыя працэнты). Між тым, бюджэтных грошай хапае толькі на працэнты.

Праект продажу ўжо ўзгоднены паміж Міністэрствамі дзяржмаёмасьці і энэргетыкі ды Расейскім фондам фэдэральнай маёмасьці.

Асноўнымі прэтэндэнтамі на акцыі "Слаўнафты" выявіліся кампанія "Сібнафта" (Раман Абрамовіч і Алег Дзерыпаска) і "Міжпрамбанк" (Сяргей Пугачоў). Праўда, пішуць расейскія аналітыкі, грошай на пакупку ўсяго пакету акцыяў не набярэ ніводзін з прэтэндэнтаў.

Яшчэ адна расейская нафтавая кампанія, "ТНК", ужо мае сваю долю ў "Слаўнафце". У яе таксама ёсьць апэтыт на кантрольны пакет і няма грошай. Таму яна, верагодна, далучыцца да аднаго з названых вышэй прэтэндэнтаў або "Юкасу".

У Беларусі застаецца меншасны пакет на 10,8 % акцый. Верагоднасьць удзелу беларускага боку ў гандлі расейскімі аналітыкамі нават не разглядаецца.

**А.Ш.**

# Выбары ідуць

Працяг са старонкі 1.

### Саветы і дэпутаты

На 15 лютага ў Беларусі налічвалася 1679 саветаў дэпутатаў усіх узроўняў — 6 абласных, прыраўнаваны да іх Менскі гарадзкі, 117 раённых, 20 гарадзкіх у гарадох абласнога падпарадкаваньня, 11 гарадзкіх у гарадох раённага падпарадкаваньня, 79 пасялковых ды 1445 сельскіх саветаў.

Налета няменскім выбарцам трэ будзе абраць 24130 дэпутатаў — менавіта столькі выбарчых акругаў сфармавана ў шасьці абласьцях краіны. Менскі гарсавет мае завяршыць аналягічную працу да 4 лістапада. У сталіцы, дзе канкурэнцыя ў барацьбе за мандаты будзе наймацнейшай, "нарэжуць" ад 40 да 60 акругаў. Дакладная лічба яшчэ ня вызначаная.

### Ня час сабаку карміць

Ніякіх істотных зьменаў, у параўнаньні нават з выбарамі ў палату прадстаўнікоў 2000 г., у правілах муніцыпальных выбараў не адбудзецца. Непрыемным сюрпрызам станецца пастанова пра абавязковае дэкляраваньне даходаў усімі патэнцыйнымі кандыдатамі. Выключэньне — кандыдаты ў сельскія ды пасялковыя саветы. Дэклярацыі аб даходах і маёмасьці "могуць і мусяць стаць дасягненьнем галоснасьці" — яны будуць вывешаныя на агульных інфармацыйных стэндах, заяўляе старшынька Цэнтравыбаркаму Лідзія Ярмошына. Гэта можа дыскрэдытаваць кандыдатаў ад правых партый, звычайна людзей багацейшых, у вачах левага электарату.

Што да зьменаў у выбарчым заканадаўстве, дык іх немэтазгоднасьць за некалькі месяцаў да выбараў даводзіць сакратар ЦВК Мікалай Лазавік. "Для нас, як арганізатараў выбараў, непасрэдна на этапе падрыхтоўкі кампаніі ня столькі важная магчымасьць унясеньня зьменаў у заканадаўства, колькі ягоная стабільнасьць. Наш Кодэкс прайшоў дзьве сур'ёзныя абкаткі на парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбарах. Пэўныя ўдасканаленьні можна было б зрабіць. Але ёсьць беларуская прымаўка: "Не тады сабаку карміць, як на паляваньне ісьці". У непасрэднай блізкасьці ад выбараў, напэўна, ня час уносіць нейкія зьмены", — сьцьвярджае сакратар ЦВК.

### Колькі каштуюць выбары

Выбары абыдуцца дзяржаве ў 7 млн. даляраў. Асноўная частка фінансаў мае пайсьці на заробкі сябрам выбарчых камісіяў усіх узроўняў. У Беларусі будзе працаваць блізу сямі тысячаў участковых камісіяў (колькасьць супрацоўнікаў кожнай складае 5—19 чалавек) і каля дзьвюх тысячаў тэрытарыяльных і акруговых камісіяў (іх штат — 9—13 чалавек). Разам ва ўсіх камісіях задзейнічаныя пад 90 тыс. чалавек. Грошы кожны зь іх атрымае невялікія: сярэдні заробак плюс 10%. "Але вялікая колькасьць камісіяў, іх супрацоўнікаў цягне адпаведныя фінансавыя расходы", — тлумачыць М.Лазавік.

Усе гэтыя грошы давядзецца браць зь дзяржбюджэту. Фармальна існуе яшчэ і пазабюджэтны фонд ЦВК, які мусіць фінансавацца за кошт добраахвотных ахвяраваньняў фізычных ды юрыдычных асобаў.

Праблема зь фінансаваньнем кампаніі яшчэ і ў тым, што сродкі на муніцыпальныя выбары будуць закладзеныя толькі ў бюджэце на 2003 г., тады як асноўны цяжар падрыхтоўчае працы прыпадае на другую палову 2002 г. Таму ЦВК зьвярнулася да Міністэрства фінансаў з просьбаю ўжо ў чацьвертым квартале выдзеліць частку грошай — на мерапрыемствы, якія трэба правесьці ў лістападзе—сьнежні. "Грошай у нас няма ні капейкі, таму цяпер мы працуем над праблемамі, якія не вымагаюць фінансаваньня. Мы спадзяёмся, што Мінфін усё-такі выдзеліць сродкі. Выбары — усенародная кампанія, якая патрабуе паэтапнага фінансаваньня. Калі сродкі будуць выдзеленыя са спазьненьнем, то мы проста правалім выбары. А гэтага не дазваляе Канстытуцыя: выбары могуць быць адмененыя толькі ва ўмовах надзвычайнага становішча", — кажа М.Лазавік.

### Накладна для кішэні

На папярэдніх выбарах у мясцовыя саветы дэпутатаў "конкурс" склаў усяго 1,2 чалавека на месца. Гэта было зьвязана з тым, што дэмакратычная апазыцыя іх байкатавала. Тады нацыянал-дэмакраты баяліся, што ўдзел у выбарах можа легітымізаваць уладу А.Лукашэнкі. А гэта несла б пагрозу легітымізацыі верагоднага далучэньня Беларусі да Расеі. Яно тады сапраўды было як ніколі вераемным.

Налета "ў буйных гарадах актыўнасьць будзе высокая, — кажа М.Лазавік. — У Менску, я мяркую, на адно дэпутацкае месца будуць прэтэндаваць да 10 чалавек. Такая ж сытуацыя можа назірацца і ў абласных цэнтрах. На ўзроўні пасялковых ды сельскіх саветаў палітычная актыўнасьць кандыдатаў будзе прыкладна такая ж, як і на мінулых выбарах".

Нізкая актыўнасьць прэтэндэнтаў тлумачыцца тым, што мясцовыя саветы накладныя для дэпутацкіх кішэняў. Гэта вельмі няўдзячная работа. Дэпутаты ня маюць нават права на бясплатны праезд па тэрыторыі свайго раёну. Дадатковых стымулаў для актывізацыі прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты няма.

### Левыя рыхтуюцца, правыя чакаюць

Згодна з заканадаўствам, зрабіцца кандыдатам у дэпутаты можна двума спосабамі: праз вылучэньне працоўнымі калектывамі ці шляхам збору подпісаў. Для апазыцыйных партыяў, якія зьбіраюцца ўдзельнічаць у выбарах, першы шлях адпадае: пры наяўнасьці адміністрацыйнае зьвязкі "начальнік—падначалены" прэтэндэнтаў будзе вызначаць начальства. Застаецца адно: збор подпісаў.

Аднак беларуская апазыцыя застаецца "множнаю". КХП-БНФ ня бачыць сэнсу браць удзел у "кантраляваных выбарах". Левыя мяркуюць ісьці на выбары канфэдэрацыяй "За сацыяльныя перамены" (у яе ўваходзяць Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада), Беларуская партыя працы ды Партыя камуністаў). Яшчэ 28 траўня яны падпісалі пагадненьне "Аб каардынацыі падрыхтоўкі і правядзеньня мясцовых выбараў". Гэтыя тры партыі ды яшчэ частка жанчынаў з партыі "Надзея" на чале з Валянцінай Матусевіч складуць левацэнтрысцкую кааліцыю. З 52 акругаў, на якія быў падзелены Менск падчас мінулых выбараў, яны зьбіраюцца ўзяць сабе 15. Астатнія пакідаюць правым. Апошнія ж пакуль ня маюць нейкага каардынацыйнага органу ці штабу, што можа выклікаць вэрхал непасрэдна ў акругах.

"Яшчэ ў траўні я публічна зьвярнуўся да лідэраў БНФ Вячоркі і АГП Лябедзькі даць рэгіянальным арганізацыям даручэньне падзяліць акругі, але вынікаў — ніякіх. Шкада. Ніхто не сумняецца, што выбары будуць несумленнымі, але іншае альтэрнатывы няма — трэба ісьці змагацца. Каля сямі тысячаў акругаў толькі ў гарадах — нехта ды пройдзе", — гаворыць Мікола Статкевіч, лідэр БСДП(НГ).

Ён лічыць, што галоўная праблема правых — адсутнасьць вылучаных кандыдатаў па акругах — вось яны, мауляў, і цягнуць час. "У нас магло б быць і болей кандыдатаў, але мы пакідаем месца і для правых. Мы ж разумеем, і іншым трэба", — гаворыць палітык.

Вінцук Вячорка яшчэ вясной заявіў: "На базе КРДС мы выйдзем на стварэньне палітычнага блёку прыкладна ў верасьні, але пагадненьне аб супрацоўніцтве ў рамках КРДС заключым значна хутчэй". Аднак на пачатак кастрычніка ўгоды яшчэ няма.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька заяўляе, что ніякага правага блёку ня будзе. "Мясцовыя выбары — палітычна-сацыяльная кампанія", у часе якой 80% кандыдатаў будуць ісьці зь мясцовымі праблемамі: дарогі, грамадзкі транспарт, сацыяльныя праблемы, а астатнія 20% — з палітычнымі: адносіны да ўлады, да Лукашэнкі. "Калі весьці гаворку пра канкурэнтаздольнасьць кандыдатаў, то многія акругі застануцца незакрытымі. У Менску мы гатовыя закрыць 2/3 акругаў сваімі кандыдатамі. Па канкурэнтаздольнасьці пытаньні могуць узьнікнуць у Горадні, Менску, яшчэ 4—5 гарадах", — сьцьвярджае А.Лябедзька.

Увесну быў праведзены "круглы стол" партыяў — сяброў Кансультацыйнае рады апазыцыйных палітычных партыяў (КРАПП), на якім вырашана ў часе мясцовых выбараў усе кааліцыі ствараць па мадэлі "зьнізу ўверх", а не наадварот. "Гэта азначае, што ўсе партыі рэкамэндавалі рэгіянальным структурам імкнуцца да стварэньня адзіных кааліцыяў у асобных рэгіёнах, якія б ядналі ўсе апазыцыйныя сілы. Па гэтай мадэлі мы працуем да сёньня. 5 кастрычніка адбыўся Нацыянальны камітэт, на якім зафіксавалі: адказнасьць за стварэньне мясцовых кааліцыяў нясуць нашыя мясцовыя арганізацыі — мы ім давяраем, лічым, што на месцы яны лепш ведаюць сытуацыю ды людзей", — гаворыць А.Лябедзька. Пры гэтым "фармат кааліцыяў у кожным рэгіёне будзе розны: у адным месцы — кааліцыя з БНФ, у другім — з Народнай грамадой". Паводле ягоных словаў, АГП гатовая вылучыць усяго каля 500 кандыдатаў.

Калі левыя поўным ходам рыхтуюцца да выбараў на ўзроўні нацыянальнага кіраўніцтва, падбіраючы кадры, то правыя збольшага вычэкваюць. Яны робяць стаўку на працу ў акругах, дзе на базе леташніх ініцыятыўных групаў за Домаша актыўна фармуюцца мясцовыя кааліцыі. Ці спрацуюць яны "бязь лідэра" так, як спрацавалі з Домашам, пабачым 2 сакавіка.

**Глеб Хмяльніцкі**




Ці перамогуць лібэралы на выбарах у сельсаветы?

IREX-PROMEDIA

**Год мінуў ад пачатку народнае абароны Курапатаў. У верасьні 2001 г. улады вырашылі правесьці рэканструкцыю Менскай кальцавой аўтадарогі, якая закранула і ўрочышча. Пагроза мэмарыялу паклікала ў Курапаты сотні людзей. "Для многіх вахта ў Курапатах гатовая была стаць амаль што вахтай чэлюскінцаў у СССР, для іншых — жывым агмянём адраджэньня, які разглядаецца як абсалютны пазытыў і таму варты стаць падмуркам новае ідэалёгіі, для трэціх — працягам і знакам усёй беларускай чыннасьці апошніх 15-ці гадоў, якая і пачалася з курапацкага знаку, з тых Дзядоў", — кажа Сяргей Дубавец.**

# Народны мэмарыял

Як і ў любой вялікай справе, вакол Курапатаў было шмат спрэчак пра тое, хто сапраўды нясе на сабе ўвесь цяжар абароны, а хто "прымазваецца".

Асноўны цяжар вахты, безумоўна, вынесла моладзь. Юнакі не сыходзілі з Курапатаў у марозныя зімовыя дні, ставілі першыя крыжы.

КХП-БНФ сваёй галоўнай справай зрабіла ўстаноўку крыжоў, і гэтая справа працягваецца дагэтуль. За адзін толькі дзень 28 верасьня ўсталявана 60 новых крыжоў. Сябры гэтай партыі ладзяць талокі, акцыі сабатажу рамонтных работаў (яны засыпалі траншэі, якія будаўнікі капалі паблізу Крыжа Пакуты).

Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" выбрала сабе іншы кірунак дзейнасьці. Яе ўдзельнікі імкнуліся прыцягнуць да Курапатаў увагу сусьветнае грамадзкасьці. Прэсавыя канфэрэнцыі, круглыя сталы, распрацоўка канцэпцыі мэмарыялу, дапамога абаронцам прадуктамі і выданьне брашуры пра Курапаты. Таксама яны імкнуліся ўсталяваць дыялёг з уладамі.

Сьвятар Леанід Акаловіч ладзіў ва ўрочышчы рэгулярныя набажэнствы.

Людзі з розных куткоў Беларусі прыяжджалі ў Курапаты, каб падтрымаць абаронцаў, дапамагчы ім харчаваньнем, цёплым адзеньнем. "Каб у грамадзкасьці было больш сілаў, мы б прымусілі ўлады весьці дарогу вакол Курапатаў, — наракае Ірына Жыхар, каардынатарка ініцыятывы. — Але на сёньня мы ня маем такой сілы. Грамадзкасьць так і не ўдалося арганізаваць, каб нават наладзіць рэгулярнае харчаваньне абаронцаў. Ідзя пакуль не авалодала масамі".

Чаму абаронцы Курапатаў сышлі ў пачатку чэрвеня 2002-га? Ня толькі таму, што для Курапатаў зьнікла небясьпека. "Курапаты сталі элемэнтам вялікай палітыкі", — кажа Ірына Жыхар. А там, дзе палітыка, заўжды непаразуменьні, скандалы, сваркі.

Пасьля адмовы сяброў БПС узяць прэмію "Хартыі-97" і рэзкай заявы Зьмітра Бандарэнкі, радыё "Свабода" перастала ўзгадваць партыйную прыналежнасьць абаронцаў. А вясной іх было вельмі мала, так што ўзьнікала праблема знайсьці людзей для начной вахты. Абаронцы скардзіліся, што ім не хапае ежы, а хтосьці кпіў, што "яны просяць цукерак". Надышоў час, калі валанцёры стаміліся і маральна, і фізычна. Да таго ж, вахта ледзь ня скончылася гібельлю аднаго з валанцёраў — Алеся Поклада. Пазьней на зьездзе "Маладога фронту" Вінцук Вячорка скажа, што "Поклад ужо ўвайшоў у найноўшую гісторыю Беларусі".

Адзін Зянон Пазьняк заклікаў не спыняць вахты...

Нельга сказаць, што Народнаму мэмарыялу цяпер нічога не пагражае. Вакол Курапатаў пачынаюцца новыя будаўнічыя работы — будаўніцтва праваслаўнага скіту, катэджнага пасёлку. Абарона скончаная — абарона працягваецца.

**Алег Тачоны**


УЛАДЗІМЕР КАРМІЛКІН

## камэнтар Зянона Пазьняка

### Дарога застанецца помнікам барбарству

Народны мэмарыял ужо створаны і будзе разьвівацца далей. Ён створаны людзьмі, якія прыяжджаюць у Курапаты з усёй краіны і з-за мяжы, ставяць крыжы, запальваюць сьвечкі. Гэта справа рук самога народу. Пакуль хтосьці спадзяецца на ўладу, пакуль ідуць размовы, паседжаньні, людзі ўзялі справу ў свае рукі, пачалі ствараць Народны мэмарыял.

Курапаты нельга зьнішчыць. З таго часу, калі праўда пра Курапаты была адкрытая, — яны незьнішчальныя. Чым больш нахабным будзе рэжым, тым хутчэй ён выкапае сабе яму. Яны хацелі сфальсыфікаваць матэрыялы па Курапатах, але гэта ім не ўдалося зрабіць. Будоўля аўтадарогі праз Курапаты — гэта кашчунства. У сьвеце такога не было! Гэта пераходзіць усе маральныя нормы. Яны перакрочылі мяжу дабра і зла. Гэта сатанінскае мысьленьне. Дарога застанецца помнікам барбарству. На гэтым асфальце будуць напісаныя імёны і ахвяраў, і катаў.

Недахоп інфармацыі прыводзіць да таго, што большасьць людзей у краіне ня ведаюць пра Курапаты, пра тое, што там адбываецца. Каб людзі ведалі, заўтра там былі б тысячы. З усёй Беларусі людзі ехалі б, каб захаваць сваю памяць. Бо ў кожнага ў сям'і хтосьці загінуў.

# Кроніка абароны Курапатаў

У дзень інаўгурацыі Лукашэнкі, **20 верасьня** 2001 г., да журналістаў даходзіць трывожная вестка: ажыцьцяўляючы рэканструкцыю Менскай кальцавой аўтадарогі (МКАД), будаўнікі высякаюць дрэвы ў Курапатах. Прыежджыя магілёўскія работнікі нічога ня ведаюць пра месца, дзе працуюць. Пачуўшы пра небясьпеку, у Курапаты пайшлі людзі.

**24 верасьня** яны становяцца перад бульдозэрамі — праца спыняецца.

**25 верасьня** з ініцыятывы "Маладога фронту" ў Курапатах засноўваецца кругласутачны пікет, які мае пільнаваць, каб будаўніцтва ня рушыла спакою забітых суродзічаў. На наступны дзень абвяшчаецца аб стварэньні грамадзкага камітэту па абароне мэмарыялу "Курапаты".

У рамках кампаніі выратаваньня Курапатаў пастаўлена тры мэты:

1) дамагчыся дакладнага выкананьня праекту рэканструкцыі дарогі, зацьверджанага ўрадам і ўхваленага Камітэтам па ахове гісторыка-культурных помнікаў (абаронцы Курапатаў цьвердзяць: будаўнікі не пільнуюцца праекту);

2) дамагчыся добраўпарадкаваньня тэрыторыі Курапатаў, прычым выдаткі ўключыць у кошт рэканструкцыі МКАД;

3) правесьці сярод шырокіх колаў грамадзкасьці асьветніцкую працу наконт значэньня Курапатаў.

Да абароны мэмарыялу спрабуюць прыцягнуць прадстаўнікоў самых розных колаў грамадзтва. Сярод пратэстантаў мільгнула нават кіраўніцтва Саюзу вэтэранаў вайны ў Аўганістане, якое таксама выказала сваю занепакоенасьць тым, што адбываецца. Вінцук Вячорка кажа, што прыцягненасьць разнамасьцевых партыяў і арганізацыяў дапаможа людзям зразумець, што "Курапаты — гэта ня толькі месца збору ангажаваных нацыяналістаў".

40 прадстаўнікоў інтэлігенцыі (сярод іх — В.Быкаў, Р.Барадулін, Н.Гілевіч, А.Вольскі, У.Арлоў, Р.Гарэцкі, С.Шушкевіч), палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, увайшоўшы ў склад грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу "Курапаты"", выступаюць з патрабаваньнем спыніць будаўніцтва МКАД і правесьці дадатковыя археалягічныя дасьледаваньні.

У Курапатах дзень і ноч дзяжураць сябры "Маладога фронту", БПС, звычайныя добраахвотнікі. Урэшце ўлада спрабуе гвалтам зноў пачаць работы.

**8 лістапада** прыкладна а 16-й да намёту падыходзяць міліцыянты, якія абвяшчаюць: у лесе знойдзены труп, неўзабаве прыедуць крыміналісты і ўсе абаронцы разам з намётамі і крыжамі павінны сысьці з тэрыторыі Курапатаў. Крыміналісты па труп не прыехалі, затое зьявіліся дзьве машыны АМАПу і будтэхніка.

Бульдозэры едуць проста на ўсталяваныя ўздоўж дарогі ў кар'еры крыжы, а рабочыя сьледам закідваюць рэшткі крыжоў зямлёй. Абаронцы становяцца ў ланцуг перад бульдозэрамі. Міліцыянты гвалтам прарываюць ачапленьне, некаторых абаронцаў хапаюць.

За ноч маладафронтаўцы ставяць яшчэ 15 крыжоў. Але ўжо а 8-й раніцы зьяўляецца АМАП з сабакамі і тэхніка, у тым ліку дзясятак самазвалаў зь пяском. Калі абаронцы Курапатаў бачаць, што будаўнікі спрабуюць засыпаць крыжы, колькі чалавек кідаюцца ў кар'ер, спрабуючы перашкодзіць. Пясок з самазвалаў працягваюць сыпаць на іх. Хлопцаў засыпае па грудзі, амапаўцы выцягваюць іх з кар'еру.

У гэты ж дзень адбываюцца яшчэ два міліцэйскія штурмы, якія сканчаюцца бойкамі і затрыманьнямі. Пасьля абеду кіраўніцтва Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Магістральаўтадар" (РУП), якое ажыцьцяўляе будаўніцтва, прызнае, што парушыла дамову з Інстытутам гісторыі АН, — работы мусілі весьціся пад наглядам археолягаў Інстытуту.

**10 лістапада** ў Курапатах адбылася першая талака з мэтаю добраўпарадкаваньня ўрочышча і ўсталяваньня новых крыжоў. Адгэтуль талокі робіцца традыцыйнымі.

**12 лістапада** прадстаўнікі грамадзкай ініцыятывы сустракаюцца з дырэкцыяй РУП, прахodзяць адпаведны інструктаж і адгэтуль могуць разам з археолягамі наглядаць за будаўніцтвам.

**19 лістапада** грамадзкая ініцыятыва ладзіць сустрэчу грамадзкасьці з кіраўнікамі ўсіх арганізацыяў, што бяруць удзел у рэканструкцыі.

Дзяжурства ў Курапатах трывае ўсю зіму й вясну. У ноч на **19 красавіка** 2002 г. у намёце абаронцаў адбываецца пажар. Адзін з добраахвотнікаў, Алесь Поклад, атрымлівае сур'ёзныя апёкі.

**3 чэрвеня** падчас невялікага мітынгу на месцы нацыянальнай трагедыі афіцыйна абвяшчаецца пра сканчэньне кругласутачнай вахты. Пастанавілі, што адгэтуль за Курапатамі будуць сачыць толькі ўдзень. Зрэшты, непасрэдная небясьпека для мэмарыялу мінула, бо будаўніцтва знаходзіцца на завяршальнай стадыі і мае скончыцца **1 лістапада**. На Дзяды.

**Сяргей Рак**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Насьпела дэнансацыя саюзнай дамовы

**Прафэсар Станіслаў Багданкевіч выступіў у "Нацыянальнай эканамічнай газэце" зь вялікім артыкулам на тэму беларуска-расейскае інтэграцыі, нашага нацыянальнага інтарэсу ў ёй на кароткі і больш доўгі тэрмін. "НН" прапануе Вашай увазе скарочаны пераказ артыкулу.**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Паглыбленьне беларуска-расейскай інтэграцыі, на першы погляд, эканамічна беззаганнае, бо Беларусь залежыць ад расейскіх энэрганосьбітаў і рынку збыту пераважнай часткі прадукцыі. Наша інтэграцыя ў рамкі высокаразьвітога Эўразьвязу не адбудзецца прынамсі ў найбліжэйшыя 15 гадоў — з-за паглыбленьня крызысу нашай эканомікі, адставаньня з рынкавай трансфармацыяй і палітычнай самаізаляцыі. На карысьць беларуска-расейскай інтэграцыі, на першы погляд, сьведчыць і дэкляраваны Расеяй курс на паступовую агульнаэўрапейскую інтэграцыю.

На долю Расеі прыпадае блізу 60% нашага замежнага гандлю. Інтэграцыя дазволіць прыбраць са шляху перамяшчэньня тавараў, паслуг, рабочай сілы і капіталу разнастайныя мытныя, а таксама эканамічныя, найперш падатковыя і цэнавыя, перашкоды. Інтэграцыя забясьпечыць беларускім прадпрыемствам на пераходны пэрыяд ніжэйшыя расейскія цэны на энэрганосьбіты і чыгуначныя тарыфы. Гэта аргумэнты, якія прыводзяцца прыхільнікамі інтэграцыі.

Вядома, ёсьць шэраг важкіх аргумэнтаў на карысьць паскоранага пераходу на расейскую валюту. Цэнтрабанк РФ мае значныя валютныя рэзэрвы, валютны курс расейскага рубля больш стабільны, інфляцыя ў Расеі значна ніжэйшая, каэфіцыент манэтарызацыі расейскай эканомікі ўдвая вышэйшы, а бартэрызацыя разьлікаў — ніжэйшая, чым у Беларусі. Адзіны ўнутраны валютны рынак дазволіў бы забясьпечыць эканомію выдаткаў пры валютным абмене, разьліках, мытным наглядзе і інш., спрыяў бы зьніжэньню ўзроўню інфляцыі.

### Перавагі несупастаўныя з стратамі

Аднак гэтыя невялікія перавагі несупастаўныя з тым, што афіцыйны пераход на расейскі рубель і валютнае заканадаўства пагражаюць нам стратай суверэнітэту.

На думку С.Багданкевіча, аб'яднаньне з Расеяй у адну дзяржаву ні ў палітычных, ні ў эканамічных, ні ў вайсковых адносінах не апраўданае. Эканамічнае становішча Расеі няўстойлівае, бо грунтуецца на экспарце энэрганосьбітаў і сыравіны, сусьветныя цэны на якія нестабільныя. Што стане з эканомікай РФ, калі цяперашні рэжым у Іраку будзе заменены на праамэрыканскі і цэны на нафту ўпадуць? Расея мае вялізную замежную запазычанасьць, якая шматкроць перавышае адносную велічыню дзяржпазыкі Беларусі. Па ўзроўні нацыянальнага даходу на душу насельніцтва РФ адстае амаль у два разы нават ад Польшчы. Карумпаванасьць улады ў Расеі — адна з самых высокіх у сьвеце. Краіну захлісну тэрор, працягвае ўцякаць капітал. Расея ваюе ў Чачэніі. Захоўваецца небясьпека ўсталяваньня аўтарытарнага рэжыму, прыходу да ўлады антыдэмакратычных сілаў, што настальгуюць па імпэрыялістычнай мінуўшчыне. Многія рэгіёны скаланаюцца ад энэргетычных праблемаў, крызысу неплацяжоў. Аслабленая эканоміка ня можа падтрымліваць былую вайсковую магутнасьць, што робіць войска нестабільным, патэнцыйна здольным на авантуры.

Іншая прычына нявыгаднасьці інтэграцыі для Беларусі — што ў нас не сфармаваны нацыянальны прыватны капітал. Пры валютнай інтэграцыі з Расеяй гэта спрычыніцца да поўнай страты беларусамі ўласнасьці, ейнага пераходу да нецывілізаванага алігархічнага расейскага капіталу.

### Навошта беларусам пасярэднік

Пагадненьне аб пераходзе з 2005 г. на валюту Расеі супярэчыць Канстытуцыі Беларусі, азначае перадачу ейнага суверэннага эмісійнага права ЦБ РФ. Бо наднацыянальнае заканадаўства аб парадку функцыянаваньня ЦБ саюзнай дзяржавы і парадку правядзеньня адзінай макраэканамічнай, грашова-крэдытнай і валютнай палітыкі, натуральна, будзе прарасейскім. Больш за тое, пасьля пераходу на расейскі рубель да зьяўленьня такога заканадаўства ў Расеі не застанецца ніякіх стымулаў для фармаваньня саюзнага эмісійнага цэнтру і саюзнай валюты. А ідэя двух эмісійных цэнтраў з выкарыстаньнем адзінай валюты ненатуральная. На практыцы гэта пагражае дэзарганізацыяй грашовага абарачэньня, асабліва пры сацыяльна-эканамічнай нестабільнасьці.

Ва ўмовах рынкавай канкурэнцыі з больш моцнымі расейскімі банкамі асноўныя беларускія банкі, што фінансуюць дзяржаўныя праграмы і прамысловых гігантаў, непазьбежна збанкрутуюць. Тое самае здарыцца і з прадпрыемствамі, якія штучна падтрымлівалі ўрад і банкі. Пачнецца абвальны рост беспрацоўя.

Альтэрнатывай увядзеньню расейскага рубля магла б стаць жорсткая прывязка да яго беларускага. Аднак сам расейскі рубель прывязаны да даляра ЗША. Дык навошта беларусам пасярэднік?

Таму варта адмовіцца на цяперашнім этапе ад ідэі поўнай валютнай інтэграцыі з Расеяй. Але мэтазгодна працягваць сынхранізацыю парамэтраў манэтарнай, падатковай, цэнавай і гандлёвай палітыкі. На гэтым этапе мэтазгодна лібэралізаваць наша грашовае абарачэньне, зрабіць паўнапраўным плацежным і ашчадным сродкам разам з беларускім, расейскі рубель, эўра, даляр.

### Патрэбны саюз, і мяжа патрэбная

Безумоўнай мэтай беларуска-расейскай інтэграцыі ёсьць мытны саюз, фармаваньне адзінай мытнай мяжы. Парамэтры такога саюзу павінны максымальна супадаць з парамэтрамі аналягічных міжнародных структураў. Аднак сьпярша варта было б пабудаваць клясычную зону вольнага гандлю паміж нашымі дзяржавамі, у межах якой прадугледзець адмену ўсіх (ці амаль усіх) мераў тарыфнага і нетарыфнага рэгуляваньня, адмову ад адміністрацыйнага рэгуляваньня цэнаў на тавары і паслугі, якія перамяшчаюцца праз мяжу. Каб супрацьстаяць кантрабандзе і ўпарадкаваць гандаль таварамі з трэціх краінаў, а таксама ў рамках падрыхтоўкі да ўступленьня ў СГА, неабходна часова аднавіць мытную мяжу з Расейскай Фэдэрацыяй. На апошнім этапе нашай інтэграцыі варта прадугледзець уступленьне сумесна з Расеяй у якасьці паўнапраўных сяброў у Эўразьвяз, пераход на агульнапрынятую стабільную эўрапейскую валюту — эўра.

У новай сытуацыі трэба дэнансаваць ці істотна скарэктаваць дамову аб саюзе Беларусі і Расеі 1997 г. Бо яна, як і рамкавае пагадненьне 2000 г. аб пераходзе на расейскі рубель, ставіць палітычныя пытаньні перапрадзе эканамічных. Мэтазгодней спачатку ўніфікаваць з Расеяй эканамічнае заканадаўства і практыку гаспадараньня. Варта скарыстацца з прапановы У.Пуціна скасаваць стварэньня наднацыянальныя органы — дарагія і непатрэбныя бюракратычныя структуры. Ня можа быць раўнапраўнай палітычная інтэграцыя, калі эканамічная вага адной краіны ў 19 разоў перавышае вагу другой, калі расейская эканоміка лічыцца рынкавай, а Беларусь, паводле ацэнкі ЭБРР, знаходзіцца на перадапошнім месцы ў рынкавых пераўтварэньнях.

Інтэграцыя сапраўды можа існаваць толькі па прынцыпах ЭЗ, лічыць С.Багданкевіч. Перш за ўсё таму, што галоўнай палітычнай і эканамічнай мэтай нашай краіны, як і Расеі, павінна стаць сяброўства ў Эўразьвязе. Таму эканамічнае заканадаўства трэба максымальна наблізіць да агульнаэўрапейскага.

# Бюракраты здужалі вытворцаў

Працяг са старонкі 3.

23 з 26 пагадзіліся, гэтак набралі яшчэ 37,1% галасоў ды здолелі ўрэшце працягнуць рашэньне: завод, які сплачвае каля 40% раённых падаткаў, губляе самастойнасьць.

Гэткім чынам, "Белавеская харчовая кампанія" будзе створаная. Кантрольны пакет яе акцыяў (55,2%) будзе належаць расейскім акцыянэрам, беларускія прадпрыемствы атрымаюць 44,8%. Абмяжоўвацца харчовымі прадпрыемствамі кіраўніцтва кампаніі ня мае намеру: плянуецца стварыць "Белавескі прамысловы канцэрн", у які ўвойдуць прадпрыемствы, што не займаюцца непасрэдна вырабам харчовых прадуктаў, а таксама гандлёвы дом "Белавескія прадукты", які будзе прадаваць прадукцыю ў маскоўскім рэгіёне.

Стваральнікі "Белавескай харчовай кампаніі" абяцаюць дапамагчы разьвіваецца прадпрыемствам Берасьцейшчыны. Умовай дапамогі яны фактычна выставілі перадачу інфраструктуры Пружаншчыны, Кобрыншчыны ды Камянеччыны ў рукі расейскіх кампаніяў.

**Алесь Кудрыцкі**

### Першы швайцарскі банк

**У краіне адчыніўся швайцарскі банк: статутны фонд "УБС Банку" (5 млн. эўра) цалкам належыць швайцарцам.** Да ягонага стварэньня было чатыры банкі з стопрацэнтным замежным капіталам: УП "Замежны банк "Масква—Менск" (Расея), ЗАТ "Астанаэксімбанк" (Казахстан), ЗАТ "Паўночны інвэстыцыйны банк" (скандынаўскія краіны) ды ААТ "Лорабанк" (Амэрыка супольна з Латвіяй).

### "Беларус" омскі

**Трактары "Беларус" будуць зьбірацца у Омску ды Елабузе (Татарстан):** МТЗ дамовіўся з Омскім заводам транспартнага машынабудаваньня ды Елабугаўскім аўтазаводам. Штогод Расея мае патрэбу ў 10 тыс. беларускіх трактароў.

### Глускую мэблю — у ЗША

**Глускі дрэваапрацоўчы завод з 1 сьнежня пачне прадаваць мэблю ў ЗША.** Штомесяц плянуюць зарабляць 100 тыс. даляраў. Валодае заводам маскоўскі прадпрымальнік Уладзімер Самашчаў, які набыў фабрыку, калі яна была на мяжы банкруцтва. На заводзе працуюць 173 чалавекі, уладальнік плянуе наняць яшчэ 30. Акрамя заводу, у раёне мэблю на экспарт вырабляе й цэх лесаперапрацоўчы мясцовай лясной гаспадаркі, атрымліваючы за тое 300 тыс. даляраў штогод.

### Натрый у ліхтарах

**Яшчэ да новага году дамы на ўсім праспэкце Скарыны і вул. Энгельса ў Менску будуць падсьветленыя.** Апроч таго, у сталіцы распачалі замяняць ртутныя ліхтары на натрыевыя. Гэта дапаможа ашчадзіць 30% электрычнасьці.

### Бізнэсоўцам — бясплатна

**Ільготы для індывідуальных прадпрымальнікаў вызначыў "Беларусбанк".** Адчыняць і зачыняць рахункі, пераводзіць сродкі ў беларускіх рублях тут будуць бясплатна. За прыёмку гатоўкі давядзецца плаціць 0,5%, а за выдачу гатоўкі з рахунку — 1% ад сумы.

### Пальчаткі з аленя

**Гарадзенскае прадпрыемства "Акцэнт" пачало вырабляць пальчаткі з фарбаванай скуры аленя і казы.** Большасьць сыравіны набываецца ў Расеі. Мяркуецца штомесяц рабіць да 3 тыс. параў пальчатак. Каштаваць яны будуць каля 15 тыс. рублёў. 25% пальчатак зьбіраюцца экспартаваць у Расею, астатнія будуць рэалізаваныя ў Беларусі.

### лічбы тыдня

**1000 НОВЫХ ТРАКТАРОЎ** атрымаюць калгасы і саўгасы. Разьлічвацца за іх будуць праз лізінг (аплата расьцягнутая на 5 гадоў), бо кожная машына каштуе пад 40 млн. рублёў. Летась гэткім чынам вёсцы прадалі 200 трактароў.

**675 РУБЛЁЎ** каштуе цяпер літар бэнзыну А-76 на аўтазапраўках "Белнафтахіму". А-92 каштуе 845, А-95 — 970, літар дызпаліва — 650 руб.

**250 000 ТОНАЎ** харчовай пшаніцы плянуе набыць за мяжой беларускі ўрад. У Беларусі сабралі 255 тыс. тонаў — гэтага хопіць толькі на 5 месяцаў. Купляць пшаніцу думаюць у Расеі па 40—60 даляраў за тону. Фуражнай пшаніцы хапае — яе назапашана 2 млн. 800 тыс. тонаў.

**4 500 000 ПЛЯСТЫКАВЫХ ПЛАЦЕЖНЫХ КАРТАК** маюць на руках беларусы. Штогод прадаецца каля 3 млн. тэлефонных картак, мільён картак для мэтро, 250 тыс. картак для платы за бэнзын. Беларускія банкі выпусьцілі ўжо 300 тысячаў картак, якімі можна карыстацца ў 225 банкаматах ды 984 тыс. пунктах выдачы наяўных грошай. 1411 прадпрыемстваў гандлю ды сфэры паслугаў дазваляюць расплачвацца па банкаўскай картцы.

**170 РУБЛЁЎ** каштуе талёнчык на праезд у магілёўскім транспарце. Сабекошт адной паездкі там складае 200 рублёў. Транспартнікі прапанавалі павялічыць цану талёнчыкаў ад 150 да 180 рублёў, але старшыня аблвыканкаму Барыс Батура запярэчыў.

**4000 РУБЛЁЎ** за кожныя суткі шматдзённай камандзіроўкі ў межах Беларусі будуць атрымліваць супрацоўнікі бюджэтных установаў. За аднадзённую камандзіроўку — 2000, а за ноч без квітка з гатэлю — 1200 руб.

**41 000 000 ДАЛЯРАЎ** вінаватыя беларускія прадпрыемствы Расеі за электрычнасьць. З пачатку году запазычанасьць зьменшылася ўдвая.

**1 000 000 ПЛЯШАК ГАРЭЛКІ** маюць экспартаваць беларускія прадпрыемствы ў Расею. Гэта сталася магчымым з-за адмены акцызаў на алькаголь для Беларусі. Цяпер беларуская гарэлка на расейскім рынку патаньнее ўтрая.

**А.К., С.І., А.М.**

саміт СНД у Кішынэве

# Букет Малдавіі

**Нялёгка беларусу ўявіць сытуацыю, калі нацыянальна-дэмакратычная апазыцыя выступае за скасаваньне сувэрэнітэту і зьліцьцё сваёй краіны з суседняй. Нялёгка ўявіць, што ёсьць краіна, насельніцтва якой так і не прыйшло да згоды, як называць сваю мову — малдаўскай ці румынскай.**

Аб'ектыўна, як мяне пераконвалі малдаване, ніякай малдаўскай мовы не існуе. Проста пасьля захопу гэтай тэрыторыі СССР у 1940-м румынскую мову перавялі на кірыліцу і пачалі называць "малдаўскай". Цяпер лацінку вярнулі, аднак многія паранейшаму з гэтым не пагаджаюцца, хоць і ня могуць сказаць, чым "малдаўская" адрозьніваецца ад румынскай.

Ня менш пытаньняў і з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй. Паводле перапісу 1989 г., у краіне жыло 64% малдаванаў, 13% украінцаў, 12% расейцаў, а таксама баўгары і гагаузы (гэтыя жывуць кампактна і цяпер маюць сваю аўтаномію). Новы перапіс сёньняшняе "камуністычнае" кіраўніцтва ўвесь час адцягвае. Паводле словаў малдаўскіх дэмакратаў, яно баіцца, што многія малдаване назавуць сабе румынамі. Дый незразумела, як правесьці перапіс у краіне, дзе з 4-мільённага насельніцтва каля мільёна працуюць і жывуць за мяжой — у Румыніі, Турцыі, Расеі, Партугаліі, уцякаючы ад сярэдняга заробку ў 40 даляраў. Дадайце сюды яшчэ прыднястроўскі канфлікт, каб атрымаўся вострый і рэзкі "букет Малдавіі".

### Вось прыедзе Пуцін

Шчырае замілаваньне ў мяне выклікаў безаглядна-наіўны аптымізм малдаўскай расейскамоўнай прэсы, якая спадзявалася на паваротныя вынікі саміту. "Што скажа Пуцін? Як ён вырашыць прыднястроўскую праблему?" Варыяцыі на тэму "Пуцін думае пра Малдову" нагадвалі думку некаторых беларусаў, што мы знаходзімся ў цэнтры ўвагі ня толькі Масквы, але і ўсяго сьвету. Большасьць гэтай малдаўскай прэсы, трэба заўважыць, дзяржаўная, і піша пра апазыцыю прыблізна ў стылі БТ часоў Зімоўскага.

Расея ды Пуцін для дзяржаўнай малдаўскай прэсы — "сьвятарная карова", у дачыненьні да якой нават цень крытыкі альбо скепсісу непажаданы. У кішынэўскіх крамах лямантуе "*Русское радио*". таксіст-расеец родам з Рыгі прызнаецца. што, жывучы ў Кішынэве 30 гадоў, па-румынску гаварыць так і не навучыўся. Малдаване, кажа, людзі гасьцінныя: калі ў кампаніі хоць бы адзін расейскамоўны, усе будуць гаварыць па-расейску. Дзеля справядлівасьці трэба зазначыць, што прэзыдэнт-камуніст Уладзімер Варонін, як і іншыя вышэйшыя кіраўнікі краіны, валодае румынскай мовай.

Малдаўскія ўлады рыхтаваліся да саміту, як правінцыйныя кіраўнікі рыхтуюцца да прыезду начальства. За два дні да сустрэчы ў Кішынэве ўключылі гарачую ваду — упершыню за апошнія гады гэта было зроблена задоўга да пачатку ацяпляльнага сэзону. У кішынэўскім аэрапорце адрамантавалі фасад будынку для асабліва важных гасьцей, траву падстрыглі, кветкавыя клюмбы асьвяжылі. Галоўную магістраль Кішынэва ачысьцілі ад неарганізаваных гандляроў і жабракоў, якія з савецкіх часоў зьяўляюцца адметнасьцю Малдовы. Невядома для чаго на два дні зачынілі рынак за тры кварталы ад месца сустрэчы прэзыдэнтаў. У дзень саміту цэнтральны праспэкт Кішынэва ад раніцы быў проста перакрыты, па ім ня езьдзілі нават таксоўкі й грамадзкі транспарт. Уздоўж праспэкту Штэфана Вялікага, які праразае ўсю сталіцу, праз кожныя 10 мэтраў стаялі паліцыянты ў парадвай форме.

### Падарунак ад імяніньніка

Што да саміту, дык на ім самым інтрыгоўным аказаўся "падрыхтаваны экспромт" Пуціна наконт абраньня на пасаду старшыні Рады кіраўнікоў дзяржаваў СНД Леаніда Кучмы. Дагэтуль толькі прэзыдэнт Расеі ўзначальваў гэтую структуру. Прапанова Пуціна на фоне падпісаньня пагадненьня пра стварэньне расейска-ўкраінскага



газавага кансорцыюму і сьціплых вынікаў сустрэчы прэзыдэнтаў Беларусі і Расеі стала яшчэ адным паказьнікам расейска-украінскага збліжэньня. Аляксандар Лукашэнка тройчы браў слова, выступаючы супраць гэтай ініцыятывы. Яго падтрымалі прэзыдэнты Ўзбэкістану, Таджыкістану ды Арменіі. Нават сам зьбянтэжаны Кучма прапанаваў перанесьці разгляд гэтага пытаньня на наступны саміт, які адбудзецца ў Кіеве. Але гэта было зроблена толькі пасьля таго, калі Лукашэнка нагадаў, што Ўкраіна нават не ратыфікавала статуту СНД і фармальна зьяўляецца асацыяваным сябрам Садружнасьці.

Навідавоку тактычныя мэты Пуціна — падтрымка ўкраінскага прэзыдэнта ў цяжкі для таго пэрыяд і жаданьне Масквы сур'ёзна ўплываць на Кіеў. Стратэгічна, аднак, тут бачыцца прызнаньне Расеяй украінскага стаўленьня да СНД як сродку цывілізаванага разводу былых савецкіх рэспублік. Пуцін вымушана прызнае тое, з чым не прымірыўся Ельцын: Расея ня здольная будаваць на руінах Саюзу нейкую новую звышдзяржаву са сталіцай у Маскве. А таму можна ўбесьці ратацыю кіраўнікоў, скараціць пэрсанал органаў СНД на 25% і пераключыць моц дзяржавы на забесьпячэньне найперш эканамічных інтарэсаў.

**Віталь Цыганкоў, кар. радыё "Свабода" — для "НН". Кішынэў—Менск**

Нямеччына

# ХДС/ХСС робіць высновы з выбараў

**Пасьля выбараў у Бундэстаг 22 верасьня Эдмунд Штойбэр, прэм'ер-міністар Баварыі і кіраўнік ХСС, выпучаны ад хрысьціянскіх дэмакратаў на пасаду канцлера, гаварыў аб стратэгічным посьпеху ХДС/ХСС. Партыя сапраўды здабыла больш галасоў, чым чатыры гады таму, і ледзьве-ледзьве не атрымала большасьці ў Бундэстагу — не хапіла 8,8 тыс. галасоў. Хадэкі па-ранейшаму маюць перавагу ў верхняй палаце нямецкага парлямэнту — Бундэсраце, што дазваляе ім пасьпяхова блякаваць ініцыятывы ўраду.**

Аднак пры гэтым хрысьціянскія дэмакраты захавалі статус апазыцыі і здабылі менш за 40% галасоў — горшыя вынікі партыя мела толькі ў 1949 і ў 1998 г. Сапраўды, гэтым разам за яе прагаласавала на 1,1 млн. чалавек болей, чым чатыры гады таму, але мільён з гэтых галасоў дастаўся хадэкам дзякуючы папулярнасьці Штойбэра ў Баварыі.

Паразай называе вынікі выбараў новая "моцная жанчына" ХДС Ангела Мэркель — лідэр партыі й парлямэнцкай фракцыі хрысьціянскіх дэмакратаў. Зь ёй згаджаецца прэм'ер фэдэральнай зямлі Саар Пэтэр Мюлер зь лібэральнага крыла. Абое прызналі, што ў ХДС/ХСС ёсьць праблемы з папулярнасьцю сярод выбаршчыкаў на поўначы і ўсходзе Нямеччыны, жыхароў вялікіх гарадоў і жанчынаў. У вялікіх гарадах за хадэкаў галасавалі 29% выбаршчыкаў, у той час як за СДПГ — 41%, а за зялёных — 14%. Дзьве траціны маладых гараджанак аддалі перавагу левым. Толькі 1/3 выбаршчыкаў, маладзейшых за трыццаць гадоў, наважылася аддаць голас за хадэкаў, а ў былой ГДР за ХДС галасавалі на 10% менш, чым за СДПГ.

Што адсюль вынікае? П.Мюлер лічыць, што ХДС мусіць надалей неабмяжоўвацца пытаньнямі эканомікі, беспрацоўя ці падаткаў, а зьвярнуць большую ўвагу на праблемы сям'і, імігрантаў, адукацыі, экалёгіі, іншых сацыяльныя пытаньні. Мэркель лічыць, што праграма хрысьціянскіх дэмакратаў у гэтых адносінах дастаткова сучасная (чытай — лібэральная), але гэта ніяк не ўдаецца давесьці выбаршчыкам. Так, азначэньне сям'і ў праграме ХДС не назавеш старамодным ("Сям'я прысутнічае ўсюды, дзе бацькі клапоцяцца пра дзяцей, а дзеці пра бацькоў"), але многім, асабліва маладым кабетам, здаецца, што хадэкі ўхваляюць выключна традыцыйную, поўную сям'ю, дзе жанчына не працуе. На думку А.Мэркель, ХДС/ХСС не павінна прынцыпова асуджаць няпоўныя сем'і ды грамадзянскі шлюб. Апроч таго, палітык зьвяртае ўвагу, што для жыхароў вялікіх гарадоў "зялёныя" лёзунгі пра разьвіцьцё грамадзкага транспарту, правы спажыўцоў ці грамадзкую апеку над дзецьмі важнейшыя за рост цэн на энэргію з-за экалягічнага падатку, зь якім змагаецца ХДС/ХСС. Мюлер адстойвае эканамічную палітыку, арыентаваную на дробных прадпрымальнікаў і працаўнікоў, тым больш што найбольшы прырост прыхільнікаў ХДС/ХСС зафіксаваны сярод рабочых і беспрацоўных.



Ангела Мэркель і Эдмунд Штойбэр

Тэзісы Мэркель і Мюлера падтрымала лібэральнае крыло ХДС, у тым ліку кіраўнік самай буйной рэгіянальнай арганізацыі ХДС Юрген Рутгерс зь зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія і Крысьціян Вульф зь Ніжняй Саксоніі. Лідэр хрысьціянскіх дэмакратаў у Рэйнлянд-Пфальцы Крытаф Бёхр лічыць, што ХДС занадта засяродзілася на "матэрыяльна-рэчыўнай" аргумэнтацыі й забылася пра эмоцыі выбаршчыкаў, тады як канцлер Шродэр тонка адчуў грамадзкія настроі.

Цяжка прадказаць, ці пераможуць рэфарматарскія памкненьні А.Мэркель пашыраны ў хадэцкіх "нізах" кансэрватыўны лад мысьленьня. Ёрг Шонбам з брандэбурскай арганізацыі ХДС ужо перасьцярог кіраўніцу партыі ад залішняй лібэралізацыі. На яго думку, няма сэнсу заваблівіць гарадзкіх выбаршчыкаў прапанаванымі Мэркель тэмамі, такімі як экалёгія, правы чалавека ці абарона спажыўцоў. "Мы павінны ня гнацца за духам часу, а мацней праяўляць нашы нацыянальныя пачуцьці", — сьцьвярджае Шонбам.

**Паводле "Gazety Wyborczej"**

Расклад сілаў у Бундэстагу





## Мост з танкаў

**Сымбалічны мост з 20 тыс. сьпісаных танкаў хоча перакінуць цераз Одру нарвэская Фундацыя Мосту сяброўства.** Яе шэф, мастак Скот Туэ, папрасіў польскі ўрад дапамагчы "будматэрыяламі". Аднак супрацоўнікі польскага Агенцтва вайсковай маёмасьці (АВМ), якое займаецца зьбіраньнем утылізаванай вайсковай тэхнікі, кажуць, што гэта немагчыма. Танкі робяцца з найлепшай сталі, і мэталюргічныя заводы плацяць за кожны вялізны грошы. АВМ можа падараваць хіба колькі штук.

Дый летась польскае войска сьпісала толькі 800 танкаў. Таму фундацыя распачынае пошук машын і ў іншых краінах. Адначасова скандынавы шукаюць грошай: разьмяшчэньне аднаго танка ў вялізнай арцы мосту будзе каштаваць 10—15 тыс. даляраў.

**Руслан Равяка**

# Загінуць або забіць

**Улетку выйшла ў сьвет кніга амэрыканскага гісторыка Браена Марка Рыга "Жыдоўскія салдаты Гітлера" (Bryan Mark Rigg. Hitler's Jewish Soldiers). Яна выклікала розгалас. Скандальнасьць дасьледаваньня — і ў назьве, і ў тэме, і ў лічбах, якія падае гісторык. Паводле ягоных зьвестак, у войсках Трэцяга райху служылі 150 тыс. габрэяў.**


Шараговы вэрмахту Антон Маер

## "Нямецкі ідэал"

"Мішлінге" — так зваліся ў гітлераўскай Нямеччыне дзеці, народжаныя ад шлюбаў арыйцаў з жыдамі. Расавыя законы 1935 г (г.зв. "Нюрнбэрскія законы" і імпэрскі закон аб грамадзянстве), якія выдалялі "стопрацэнтных" жыдоў па-за юрыдычнае поле, былі больш спагадлівымі да мяшанцаў. Тыя, у каго жыдам быў толькі адзін з бацькоў (мішлінге першай ступені) ці адзін з бабцяў-дзядоў (мішлінге другой ступені), не лічыліся жыдамі — яны былі немцамі з "сапсаванай" крывёю.

І гэтак сама, як і "чыстакроўных" немцаў, іх прызывалі ў вэрмахт, Люфтвафэ і на флёт. Яны гэтак сама служылі і даслужваліся да афіцэрскіх, часам нават генэральскіх званьняў.


Вэрнэр Гольдбэрг

Сотні мішлінге атрымалі за сьмеласьць Жалезныя крыжы. 20 шарагоўцаў і афіцэраў жыдоўскага паходжаньня былі адзначаныя Рыцарскім крыжам — найвышэйшай вайсковай узнагародай Райху. Нацысцкая прэса рэгулярна зьмяшчала фатаздымак блакітнавокага бляндына ў касцы з подпісам "Ідэальны нямецкі салдат". Звалі хлопца Вэрнэр Гольдбэрг. Ягоны бацька быў габрэй.

Гэтыя факты падаюцца фантастыкай, аднак дасьледнік пацьвярджае іх рэальнымі дакумэнтамі. Так, ён распавядае пра 82-гадовага жыхара ФРН, які служыў падчас вайны капітанам у вэрмахце і таемна выконваў юдаісцкія абрады ў ваенна-палявых умовах.

Маёр вэрмахту Робэрт Боргард заслужыў Рыцарскі крыж за танкавы прарыў савецкага фронту ў жніўні 1941 г. Потым ён трапіў у Афрыканскі корпус Ромэля і пад Эль-Алямэйнам брытанцы ўзялі яго ў палон. У 1944 г. ён прыехаў у Англію дзеля ўзьяднаньня з бацькам, аднак у 1946 г. вярнуўся ў Нямеччыну. На бацькава пытаньне адказаў: "Нехта ж мусіць адбудоўваць нашую краіну". У 1983 г. ён казаў нямецкім школьнікам: "Шмат хто з жыдоў і паўжыдкаў ваяваў за Нямеччыну падчас другой сусьветнай. Яны лічылі, што мусяць сумленна бараніць свой фатэрлянд".

Палкоўнік Вальтэр Голяндэр, сын габрэйкі, атрымаў ад фюрэра асабістую граматy, у якой пацьвярджалася ягонае арыйства. (Гэткіх пасьведчаньняў пра "чысьціню крыві" для афіцэраў жыдоўскага паходжаньня Гітлер падпісаў паўтары сотні. Сярод навасьпечаных арыйцаў былі нават 2 фэльдмаршалы.) За час вайны Голяндэр атрымаў Жалезныя крыжы абедзьвюх ступеняў і такую рэдкую ўзнагароду, як Залаты Нямецкі крыж. У 1943 г. на Курскай дузе ягоная супрацьтанкавая брыгада ў адным баі зьнішчыла 21 савецкі танк. Палкоўнік быў адзначаны Рыцарскім крыжам. На адпачынак у Райх ён ехаў праз Варшаву, і выгляд варшаўскага гета маральна зламаў Голяндэра. Вярнуўшыся на фронт, ён зрабіўся "занадта незалежным і малакіраваным", як запісана ў асабовай справе, і праз гэта страціў магчымасьць узьняцца да генэральскага званьня.

Перасягнуў яго сын габрэя-фармацэўта Эрхард Мільх — генэрал-фельдмаршал Люфтвафэ, намесьнік Германа Герынга. Ён злучыў свой лёс з нацыянал-сацыялістычнай партыяй, калі быў дырэктарам фінансавай управы кампаніі "Люфтганза" (1926—33 г.). З 1933 г. ён быў статс-сакратаром Міністэрства авіяцыі ды начальнікам узбраеньня Люфтвафэ. Заслуга стварэньня нямецкай вайсковай авіяцыі цалкам належыць Герынгу і Мільху. Пасьля капітуляцыі Францыі ў 1940 г. яму было нададзена званьне генэрал-фэльдмаршала. Каб давесьці "чысьціню крыві" Мільха, Герынг здабыў дакумэнт, падпісаны фраў Мільх, дзе цьвердзілася, што Эрхард — пазашлюбны сын барона фон Біра. Герынг сьмяяўся: "Мы зрабілі зь Мільха байструка, але ж байструка арыстакратычнага".




У 1947 г. Міжнародны вайсковы трыбунал прысудзіў Э.Мільха да пажыцьцёвага зьняволеньня. Аднак ужо ў 1954 г. яго выпусьцілі.

Улюбёнец Гітлера Райнгард Гейдрых, кіраўнік *RSHA*, які кантраляваў гестапа, крымінальную паліцыю, выведку і контравыведку, усё сваё жыцьцё змагаўся з чуткамі пра габрэйскае паходжаньне. Кажуць, аднаго разу, вярнуўшыся дадому нападпітку, ён пабачыў сябе ў люстэрку і пачаў страляць, прыгаворваючы: "Жыд пархаты!"

## Ахвяры ці каты?

У 1940 г. усім афіцэрам, якія мелі двух жыдоўскіх дзядоў ці бабуляў было загадана падаць у адстаўку. Тыя, у каго толькі адзін продак быў габрэйскае крыві, маглі застацца служыць як шарагоўцы.

Аднак загады часта заставаліся толькі на паперы. Нямецкія салдаты не выдавалі партыйным і карным органам "сваіх жыдоў" (і адначасова цалкам спакойна ставіліся да расстрэлаў жыдоў на захопленых тэрыторыях). У кнізе Б.Рыга падаюцца 1200 прыкладаў службы мішлінге ў вэрмахце. У 1000 зь іх было зьнішчана 2300 жыдоўскіх сваякоў.

Часьцяком жыцьцё ставіла іх у сюррэалістычныя сытуацыі. Салдат з Жалезным крыжам прыехаў з фронту ў канцлягер Заксэнхаўзэн, каб наведаць свайго бацьку-жыда. Афіцэр СС быў у шоку: "Калі б не ўзнагарода на тваім мундзіры, ты б у мяне хутка апынуўся тамсама, дзе і твой бацька".

76-гадовы жыхар Нямеччыны, жыд на ўсе сто працэнтаў, так і ня змог адказаць сабе на пытаньне: "Калі я служыў у нямецкім войску, а мая маці загінула ў Асьвенцыме, дык хто я — ахвяра ці адзін зь перасьледнікаў?" Ён у 1940 г. здолеў уцячы з акупаванай Францыі па фальшывых дакумэнтах на нямецкае імя. Зь імі ён трапіў у элітныя войскі "Вафэн-СС". Ягоны выпадак — вынятак з традыцыйнага жыцьцяпісу мішлінге. Аднак — вынятак, які пацьвярджае правіла. "Немцы, якія адчуваюць сваю віну за зробленае, ня хочуць чуць пра нас. Жыдоўская грамада адварочваецца ад такіх, як я. Нашыя гісторыі супярэчаць таму, што зьвыкліся называць Галакостам", — кажа гэты вэтэран другой сусьветнай.

Абсалютная бальшыня мішлінге служыла ў звычайных часьцях вэрмахту. Самі яны кажуць, што, ідучы ў войска, сваёй мужнасьцю стараліся абвергнуць расісцкія тэорыі нацыстаў. Гітлераўскія салдаты даказвалі, што жыдоўскія продкі не замінаюць ім быць нямецкімі патрыётамі і храбрымі байцамі.

Вэрмахт увесь час быў "гняздом апазыцыі" ў Райху. Кадравыя вайскоўцы не прымалі расавых і партыйных тэорыяў нацыянал-сацыялістаў і неадноўчы рыхтавалі замахі на "ўлюбёнага фюрэра". Вядомы замах 20 ліпеня 1944 г. — іхная справа.

## Праўда і няпраўда

Гісторыкі, якія даўно займаюцца дасьледаваньнем Трэцяга райху, кажуць, што амэрыканскі дасьледнік узьняў ня дужа новую праблему. Яшчэ ў 1970-х зьявіўся артыкул жыдоўскага гісторыка Міхаэля Фрэйнда, дзе гаварылася: Р.Гейдрыха прызначылі адказным за "канчатковае вырашэньне жыдоўскага пытаньня" менавіта таму, што Гітлер і Гімлер ведалі пра ягонае жыдоўскае паходжаньне.

Даніэль Клугер у ізраільскай газэце "*Вести*" зазначыў, што тэма мішлінге ў войску Райху ўздымаецца з канца 80-х. Аднак часта мішлінге кіраваліся зусім не матывамі патрыятызму, пра якія кажа Б.Рыг. Пэўная частка іх "ішла ў войска з адзінай мэтай: выратаваць сваіх бацькоў. Часам ім гэта ўдавалася, як безыменнаму танкісту, які дведаўшыся, што ягоны бацька-"паўжыд" знаходзіцца на вакзале сярод іншых падрыхтаваных да дэпартацыі, уварваўся туды як быў — у чорнай уніформе танкіста — і гвалтам выцягнуў свайго бацьку з натоўпу асуджаных на сьмерць. І выратаваў яго: паліцыя, якая ачапіла будынак, не рызыкнула супрацьстаяць франтавіку".

Рауль Гілбэрг, прафэсар гісторыі Вэрмонцкага ўнівэрсытэту, лічыць, што Рыг завышае лічбу мішлінге ў войсках Трэцяга райху. "Мы ведаем, што іх былі тысячы", — кажа ён, аднак лічбу звыш 100 тыс. лічыць перабольшанай.

Чуваць галасы і ў падтрымку Б.Рыга. Былы канцлер ФРН Гельмут Шміт, афіцэр Люфтвафэ і ўнук габрэя, сьведчыць: "Толькі ў маёй авіячасьці было 15—20 такіх самых хлопцаў, як і я. Перакананы, што глыбокае вывучэньне Рыгам праблематыкі нямецкіх салдатаў жыдоўскага паходжаньня адкрые новыя пэрспэктывы ў вывучэньні ваеннай гісторыі Нямеччыны XX ст.".

**Аркадзь Шанскі**



Браен Марк Рыг — 31-гадовы прафэсар гісторыі Амэрыканскага вайсковага ўнівэрсытэту. Быў добраахвотнікам у ізраільскім войску, афіцэрам у корпусе марской пяхоты ЗША. Нядаўна абараніў доктарскую дысэртацыю ў Гарвардзкім унівэрсытэце. Тэмай габрэяў-салдатаў Райху зацікавіўся падчас побыту ў Нямеччыне, калі вывучаў карані ўласнага роду.

фатаграфія

# Вачыма Кесьлера

**У Магілёве сярод усё большае колькасьці мерапрыемстваў забаўляльнага характару, разьлічаных на масавага гледача, імпрэзы зь якасна іншай сэнсавай і сутнаснай нагрузкай выглядаюць як альбіносы сярод нэграў. Яны ня тое каб зусім рэдкія, ня тое каб абдзеленыя ўвагай — яны папросту нязвыклыя. Затое яны — знакі сталасьці грамадзтва.**

Падзея, пра якую гаворка, закранае адну з найменей дасьледаваных старонак гісторыі Магілёва часоў другое сусьветнае вайны — жыцьцё і зьнішчэньне габрэйскага гета. У музэі гісторыі Магілёва ў памяць аб 61-й гадавіне першага масавага расстрэлу габрэяў была адкрытая выстава фатаздымкаў з Фэдэральнага архіву Кобленцу (Нямеччына). Усе здымкі былі зробленыя фотакарэспандэнтам вэрмахту Рудольфам Кесьлерам у чэрвені 1941 г. з палітычна-прапагандыцкай мэтай і мусілі ілюстраваць мерапрыемствы акупацыйных уладаў па арганізацыі габрэйскіх працоўных атрадаў і стварэньні магілёўскага гета.

Выстава ня мела дакладнае назвы, і ў гэтым ёсьць свой сэнс. З аднаго боку, арганізатары імкнуліся паказаць трагедыю габрэйскага гета. З другога боку, выстава мела стацца імпульсам для пераасэнсаваньня сучасным грамадзтвам трагічных падзеяў таго часу. Паводле даваеннай статыстыкі, у Магілёве габрэі складалі 45% ад агульнае колькасьці насельніцтва. У гэтай сытуацыі казаць аб адназначнасьці ўзаемінаў між габрэямі і беларусамі не выпадае. Два этнасы суіснавалі ва ўмовах канкурэнцыі. Ня можна адпрэчваць факту актыўнага альбо пасіўнага суўдзелу беларусаў у рэпрэсіўных захадах акупацыйных уладаў, калі за часамі другое сусьветнае вайны ў Магілёве было зьнішчана больш за 20 тыс. габрэяў. Аднак гэтая лічба была б большай, каб не было сем'яў, што ратавалі габрэяў, нягледзячы на рызыку быць зьнішчанымі. На фатаздымках, вядома, не на першых плянах, прысутнічаюць і беларусы, якія сваім выглядам мала чым розьняцца ад габрэяў — тая ж вопратка, тыя ж стомленасьць, разгубленасьць. Прысутнічаюць, вядома, і паліцыянты пры зброі.

Гэтак супала, што выставу наведаў дырэктар Эвангелічнай акадэміі Бадэн сп.Лохман. Ён распавёў пра дыскусію, якую выклікалі гэтыя фатаздымкі ў Нямеччыне. Сп.Лохман зазначыў: “Гісторыя цьвердзіць, што нельга шукаць аднаго вінаватага. Гэтак не бывае, што нехта адзін ува ўсім вінаваты. Калі ў разьвязаньне пэўных пытаньняў уцягнутыя войскі, калі ўцягнутыя народы, дзяржавы, калі гаворка вядзецца аб жаданьні зьнішчыць народ, дык нельга казаць, што нехта робіць, а нехта гэтага ня робіць. Усе ў гэтым вінаватыя”.

На адкрыцьці выставы паведамілі, што нарэшце выйшла з друку першая кніга з сэрыі “Гісторыя магілёўскага габрэйства. Дакумэнты і людзі”. Менавіта ў працэсе збору матэрыялаў для кніжкі і былі знойдзеныя фатаздымкі, прадстаўленыя на выставе.



**Алесь Асіпцоў, Магілёў**

захапленьні

# Аляксандар Астравух: “Вывучэньне ідышу сталася сродкам самазахаваньня”



**Аляксандру Астравуху 43 гады. Жывё ён у Менску, мае жонку, дваіх дзяцей (сыну Радзіму ўсяго некалькі месяцаў). Нарадзіўся ў беларускай сям'і ў вёсцы Закрэўшчына на ўскрайку Вузды. Апошнія пяць гадоў ён рупліва складае ідыш-беларускі слоўнік, працуючы штодня па 10—12 гадзінаў у суткі.**

— Калі пытаюцца пра маё паходжаньне, мне адразу згадваецца жартоўная песьня на ідышы: “Майн татэ із а балаголэ...” Дзяды мае былі простыя сяляне, бацька — вайсковец, маці працавала бухгальтаркай. Паводле адукацыі я мастак-рэстаўратар. Скончыў стаўпецкую школу, мастацкую вучэльню імя Глебава ў Менску, тады паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут. Тры з паловай гады працаваў у школе, потым трапіў у рэстаўрацыйную майстэрню. Сышоў зь яе ў 1997 г. Вучыўся ў Італіі, Румыніі, Аўстрыі. Яшчэ й цяпер троху працую ў галіне рэстаўрацыі, але ў асноўным займаюся слоўнікам.

**— Ад каго ў Вас гэткая цікавасьць да ідышу?**

— Ад выкладчыка з інстытуту, які потым стаў нашым кіраўніком у майстэрні. Яго завуць Алег Хадыка. Ён вырас на менскай Старажоўцы. Пасьля вайны там яшчэ жылі габрэі, якія размаўлялі на ідыш. Ад Алега Хадыкі мы, студэнты, вучыліся прыказкам, песьням, першым літарам габрэйскага альфабэту. У 1984 г. я трапіў у Мсьціслаў, дзе “старэйшыя таварышы” запісвалі ад габрэяў песьні, фальклёр. Мы пісалі дзёньнікі па-беларуску габрэйскімі літарамі справа налева, ня ведаючы яшчэ мовы, толькі альфабэт. Тут было і юнацкае захапленьне незвычайным, і рэстаўрацыйнае памкненьне. Рэстаўратар займаецца справамі непатрэбнымі, кінутымі... Мова зьнікала на вачах. З большасьці габрэяў слоўца на ідыш выціснуць было немагчыма. Мастак Май Данцыг, мой выкладчык, ведаў, што мы вывучаем ідыш, але для яго гэта тэма была абсалютна закрытая.

**— Дзе яшчэ, акрамя як у коле рэстаўратараў, можна было пачуць ідыш у Менску?**

— Калі нам, студэнтам, не хацелася ісьці на заняткі, мы выпраўляліся ў парк Чэлюскінцаў, дзе падслухоўвалі старых габрэяў, якія, шпацыруючы альбо гуляючы ў шахматы, размаўлялі на ідыш. У пачатку 90-х мы, рэстаўратары, хадзілі на курсы да паэта Гірша Рэлеса ў Менскае аб'яднаньне габрэйскай культуры імя Ізі Харыка. Вывучэньне ідышу, асабліва ў 1984—85 г., сталася для мяне сродкам самазахаваньня ва ўмовах тагачаснага абсурду, калі нельга было насамрэч займацца мастацтвам...

**— Як вы трапілі на ідышсцкі кангрэс у Вільні?**

У 1997 г. у Менск прыехаў Гірш-Довід Кац, знакаміты лінгвіст з Оксфарду, які зьбіраўся наведаць усе мястэчкі і запісаць беларуска-габрэйскі фальклёр. Гірш Рэлес паведаміў яму пра нашу групу, мы пасябравалі, і налета ў Вільню паехала пяцёра нашых хлопцаў-рэстаўратараў. Ад 1999 г. я пачаў штогод езьдзіць на віленскія сэмінары. У 2001 г. пры Віленскім унівэрсытэце быў адчынены Габрэйскі інстытут. Цяпер пад яго дахам усё і ладзіцца.

**— Хто выкладчыкі?**

— Людзі з розных кантынэнтаў, вельмі цікавыя. Ганна Вершык з Таліну, Ханан Бордзін зь Ерусаліму, Аўром Ліхтэнбойм з Буэнас-Айрэсу, Іцхок Ніборскі з Парыжу. Ніборскі выкладае звычайна ў Амэрыцы, у Каліфорніі, і непасрэдна ў Францыі. Дарэчы, зараз у Парыжы адно з самых моцных асяродзьдзяў ідышу. Пад эгідай габрэйскай бібліятэкі “Мэдэм” створана некалькі добра апрацаваных слоўнікаў: француска-ідыш, ідыш-францускі, слоўнік габраізмаў у ідышы...

**— А студэнты адкуль прыяжджаюць?**

— Таксама з усяго сьвету. З Амэрыкі, Ізраілю шмат студэнтаў, з Францыі, Нямеччыны заўжды прыяжджаюць, з Бэльгіі, Польшчы таксама. Сёлета ўпершыню японка была. Усяго — каля 70 чалавек. На жаль, вучыцца на гэтых курсах — даволі дорага, таму ідзе тэндэнцыя зьніжэньня ліку вучняў з СНД. Летась былі людзі з Масквы, Украіны, зь Літвы некалькі чалавек. Сёлета ўжо амаль нікога не было. Зь Беларусі былі Дзіна Іткіна, жыхарка Полацку, і я. Цікава, што сёлета ў Вільню прыехала многа моладзі, якая сур'ёзна займаецца ідышам. Таму вышэйшыя “клясы” — трэці, чацьверты ўзроўні — былі перапоўненыя. Звычайна ж запаўняюцца толькі першыя ўзроўні — першы, другі. Я ўжо прайшоў усе ўзроўні, і сёлета мне проста хацелася паслухаць такіх знаўцаў, як Ніборскі і Ліхтэнбойм.

**— Ці ўдасканалілі Вы веданьне ідышу пасьля візытаў у Вільню?**

— Безумоўна. Сэмінары — жывая магчымасьць пачуць мову, гутарыць на мове. Таму і прыяжджаюць у Вільню энтузіясты з усіх куткоў сьвету і жывуць цэлы месяц у штучна створаным, але па-мастацку адрэстаўраваным асяродзьдзі. Габрэі ў Вільні не цураюцца ідышу, таму здаецца, што ў гэтым горадзе вялікая габрэйская грамада, хоць у колькасным вымярэньні яна саступае менскай.

**— Чаму ў Менску няма гэткай габрэйскай установы, як Віленскі інстытут?**

— Цяжка сказаць. А чаму ў Вільні захавалася ўсё ці амаль усё беларускае — бібліятэкі, архітэктура, асяродкі Беларушчыны? Тое самае і зь літоўскай мовай, і з габрэйствам, і з ідышам.

**Паводле “Анахну кан”**

Вялікі фрагмэнт з габрэйска-беларускага слоўніка прыказак і прымавак, складзенага **А.Астравухам**, быў зьмешчаны ў **“Габрэйскім нумары” часопісу “ARCHE”**. Сам вялікі ідыш-беларусі слоўнік мае выйсьці з друку ў 2003 г. Вэб-адрас Віленскага інстытуту: www.yiddishvilnius.com.

# Тры тысячы менчукоў праслухалі казкі

Менская тэлефонная сетка з 4 кастрычніка ўвяла новую паслугу — казкі для дзяцей па тэлефоне. Кожны дзень па тэлефоне 096 для дзяцей Менску гучыць новая казка. Каштуе такая паслуга 22 рублі за хвіліну, і праслухаць казку можна і днём, і вечарам. Для кожнага абанэнта казка будзе гучаць ад пачатку. Даўжыня кожнае казкі складае ад 5 да 15 хвілінаў. Гэта крыху болей за час, адведзены на казкі, напрыклад, у тэлефонных сетках Масквы: там яны доўжацца 5—8 хвілінаў.

Падрыхтаваная фанатэка МГТС зьмяшчае па 25 казак па-расейску і па-беларуску, агучаных дыктарам тэлевізіі Тацянай Мацюшэнкай. Гэтага запасу хопіць на найбліжэйшыя 2 месяцы. Потым супрацоўнікі тэлефоннай сеткі мяркуюць дадаваць новыя казкі.

Як адзначаюць супрацоўнікі МГТС, новая паслуга ўжо выклікала вялікую цікаўнасьць. На выходных 5—6 кастрычніка колькасьць тэлефанаваньняў перасягнула 3000. Прыблізна на такую колькасьць тэлефанаваньняў і разьлічвала МГТС, уводзячы новую паслугу.

Апрача казак, МГТС цяпер увяла таксама інфармаваньне пра кінаафішу Менску (091), начныя дыскатэкі (092), адрасы кругласутачных крамаў (093), гараскопы для ўсіх знакаў Задыяку (094), штодзённы прагноз надвор'я (095). Кошт кожнае такое паслугі таксама складае 22 рублі за хвіліну. Як засьведчылі "НН" у кіраўніцтве Менскай гарадзкой тэлефоннай сеткі, найбольшая колькасьць зваротаў прыпала на нумар 094: дазнацца свае гараскопы на выходныя пажадалі амаль 3500 жыхароў Менску.

**А.Ш.**

# У "Спадчыны" новы рэдактар

**Новым галоўным рэдактарам часопісу "Спадчына" заміж Захара Шыбекі стаў Аляксей Хадыка.**



Як ён зазначыў для "НН", галоўная задача, якая сёньня стаіць перад рэдакцыяй, — аднавіць рэгулярны выхад выданьня. Найбліжэйшы нумар, прысьвечаны Польшчы, — у стадыі макетаваньня, ён павінен выйсьці пры канцы месяца. Пасьля яго ўбачаць сьвет "украінскі" і "эканамічны" нумары.

Надалей А.Хадыка мяркуе зрабіць "Спадчыну" самаакупнай: "Мы адновім падпіску: яна заўжды давала вельмі высокі ўзровень акупнасьці часопісу — больш за 50%. Апроч таго, выданьне мае даўнія традыцыі і вялікі інтэлектуальны патэнцыял. Таму мы мяркуем прадаваць інтэлектуальныя прадукты "Спадчыны". Напрыклад, наладзіць выпуск календароў і г.д.". Палепшыцца й афармленьне часопісу — пабольшае ілюстрацыяў, у тым ліку каляровых. Новы рэдактар плянуе таксама зрабіць часопіс рэцэнзаваным, "ВАКаўскім" (ад ВАК — Вышэйшая атэстацыйная камісія), каб публікацыі ў часопісе залічваліся навукоўцам-гісторыкам падчас абароны дысэртацыяў. Ніводзін недзяржаўны часопіс ня мае такога права. Таму публікацыя ў грунтоўных, але нерэцэнзаваных "Беларускім гістарычным аглядзе" і "Спадчыне" выглядае нібыта менш прэстыжна, чым у "Беларускім гістарычным часопісе" ці "Вестках Акадэміі навук". "Рэцэнзаваньне дазволіць узьняць прэстыж "Спадчыны" і пашырыць кола аўтараў", — упэўнены А.Хадыка.

**А.Ш.**

"Тры іксы" ў Менску

# Першая справа Ксандэра Кейджа



**Хто такі Джэймз Бонд, ведаюць нават тыя, хто ніколі ня чуў пра Яна Флемінга і ня бачыў ніводнага фільму з так званай "бандыяны". Яшчэ б! Адолеўшы столькі падонкаў, кожны зь якіх абавязкова хацеў зьнішчыць сьвет, непераможны супрацоўнік брытанскіх "органаў" даўно зрабіўся зьбіральным вобразам усіх шпіёнаў.**

Але цалкам магчыма, што слава Бонда застанецца ў мінулым стагодзьдзі. Сучасную моладзь ня вабіць бондаўскі кансэрватызм — ад клясычнага стылю адзеньня і бездакорных манераў да "правільнага" сьветапогляду. Яна хацела б бачыць героя, больш "блізкага да народу".

Студыя "Каламбія Пікчэрз" пастаралася гэта ўлічыць, выпускаючы на экраны фільм "Тры іксы", што вось ужо другі тыдзень дэманструецца і ў Менску. "Бандыяна" заўсёды цікавіла босаў "Каламбіі", некалі яны нават спрабавалі адсудзіць правы на пэрсанаж супэрагента ў студыі "*MGM*", але не атрымалася. Нездарма ў 2000 г. зьявіліся "Анёлы Чарлі", дзе функцыі Бонда выконваюць тры крутыя дзяўчыны. Атрымаўшы неблагую "касу", фільм цалкам мог стацца пачаткам новага шпіёнскага сэрыялу. Таго самага цяпер чакаюць ад "Трох іксоў".

Праўда, Ксандэр Кейдж (якога іграе Він Дызэл, вядомы гледачам па фільмах "Выратаваць радавога Раяна", "Чорная дзірка" і "Фарсаж") можа прэтэндаваць хутчэй на ролю "анты-Бонда". Ксандэр "паліцэйскіх акадэміяў" не канчаў, і прагне ён не служыць грамадзтву, а жыць для сябе. Галоўнае для яго — каб у крыві быў належны ўзровень адрэналіну. Ксандэра не асабліва хвалюе лёс сьвету, і ратаваць яго (па прапанове спэцслужбаў) Кейдж бярэцца толькі таму, што іначай яму пагражае турма за ранейшыя "подзьвігі".

Яго адпраўляюць у Прагу, дзе "кепскія дзядзькі" ў асобе адстаўнога расейскага афіцэра Ёргі (яго ролю выконвае новазэляндзец Марцін Цокас) і кампаніі задумваюць нешта нядобрае. Маючы "прыстойную" для злачыннага сьвету рэпутацыю, Ксандэр пасьпяхова ўціраецца ў давер да Ёргі. Спачатку заданьне здаецца простым: здабыць інфармацыю. Але чым далей, тым больш адказнасьці кладзецца на ягоныя плечы...

Многія сюжэтныя моманты "Трох іксоў" перацягнутыя з "бандыяны" ды іншых баевікоў (як вобраз мазгавітага вучонага, што ставрае агенту разнастайныя супэрпрыстасаваньні). Нічым асаблівым сярод *іншых* нягоднікаў не вылучаецца і "тыповы расеец" Ёрга. Хіба прынцыповым анархізмам.

Дый галоўны герой не такі хуліган, як здаецца спачатку. Так, ён нэгатыўна ставіцца да курэньня і п'е толькі для таго, каб "раскалоць" бандытаў. І наагул нораў мае добры.

Трукаў і экшэну ў фільме, бадай, ня меней, чым у апошніх стужках "бандыяны". Многія сцэны сапраўды ўражваюць — як эпізод зь лявінай. Затое жорсткага гвалту й пасьцельных сцэнаў у "Трох іксах" няма, таму фільм цалкам прыдатны для прагляду любой аўдыторыяй. Упрыгожвае стужку, вядома, і Прага, якая асабліва добра глядзіцца ў тыя хвіліны, калі ёй пагражае зьнішчэньне ад рук нікчэмных тэрарыстаў.

Плюсоў у фільме яўна больш, чым іксоў, таму паглядзець яго варта, ва ўсякім разе аматарам баевікоў.

**С.П.**

# Бондар на бочцы

**Літаратурна-выдавецкая бочка "Літаратура і мастацтва", якая пасьля сыходу Сяргея Касьцяна засталася бяз бондара, ізноў яго атрымала. Праўдзівей, гэта бондарка: 7 кастрычніка кіраўніцай холдынгу была прызначаная паэтка Таіса Бондар.**

Зьмены ў кіраўніцтве холдынгу адлюстравалі вынік барацьбы паміж групоўкамі Сяргея Касьцяна і міністра інфармацыі Міхаіла Падгайнага. На зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў 24 верасьня М.Падгайны пакаяўся ў няправільнай кадравай палітыцы пры арганізацыі холдынгу, і вось плён — паставіў кіраўніцай вядомую беларускую паэтку.

Перавод часопісу "*Всемирная литература*" на беларускую мову, задуманы С.Касьцянам, цяпер наўрад ці адбудзецца. Так кажа сама беларуская паэтка ў камэнтары для "НН": "Гэта вельмі спэцыфічны часопіс, таму я лічу, што ён павінен выходзіць па-расейску".

Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч ад камэнтароў наконт прызначэньня Т.Бондар кіраўніцай холдынгу ўстрымаўся.

**Аркадзь Шанскі**

# Кіно краіны "Барандаў"

*Якія фільмы варта паглядзець у часе рэтраспэктывы чэскага кіно*



Чэскае кіно сёньня ў росквіце. Пасьля "новай хвалі" 60-х, якая падаравала сьвету Іржы Менцэля, Веру Хіцілаву і Мілаша Формана, яно зноў набірае абароты.

Здымачныя пляцоўкі загружаныя, амэрыканцы актыўна здымаюць у Празе, чэскія фільмы запрашаюць на прэстыжныя фэстывалі. А пачынаўся новы пад'ём пры канцы 80-х, калі савецкая сыстэма канала, каб абрынуцца пад ударамі "аксамітнай рэвалюцыі".

Карціны менавіта гэтага пэрыяду можна будзе паглядзець на наступным тыдні ў менскім кінатэатры "Перамога".

Найбольш цікавым падаецца фільм "Час слугаў" (14 кастрычніка, 18.30) Ірэны Паўласковай — дачкі кінакрытыка Нэлі Паўласковай. Гэта псыхалягічная драма пра складанасьці каханьня і помсты. Безадказнае каханьне ператварае сьціплую студэнтку-мядычку ў мэгеру, якая круціць блізкімі й калегамі, як цацкамі. Карціна з посьпехам прайшла на кінафэстывалях у Канах, Жэнэве й Манрэалі, а выканаўца галоўнай мужчынскай ролі Карал Родэн, актор у пятым калене, пасьля гэтага фільму дэбютаваў у Галівудзе. Паўласкова праз дзесяць гадоў зьняла працяг — "Час пазыкаў", які стаўся самым наведвальным фільмам у Чэхіі ў 98-м.

У праграме чэскага кіно таксама "Праклён дому Гайнаў" (15 кастрычніка, 19.00) рэжысэра Іржы Свабады — псыхалягічны трылер у стылі рэтра, які ўжо адной назвай намякае на знакамітую навэлу Эдгара По. Фільмы "Павуціньне" (16 кастрычніка, 19.00) і "Падзея 88" (17 кастрычніка, 19.00) прысьвечаныя моладзевым праблемам, а стужка "Калі ў верасьні ішоў дождж" (18 кастрычніка, 19.00) — экранізацыя раману Яна Отчанашака.

А 19 кастрычніка вядзіце ў "Перамогу" малых — будуць паказваць чэскія мультфільмы. Пачатак а 12-й.

**Андрэй Расінскі**



## дзе варта быць

### "Сон на кургане"

**19, 22 і 29 кастрычніка ў Малой залі тэатру імя Горкага (вул.Валадарскага, 5) акадэмічная кляса Барыса Луцэнкі прадстаўляе новую пастаноўку паводле Янкі Купалы — "Сон на кургане".** Пастаноўка вылучаецца сярод іншых сцэнічных увасабленьняў купалаўскае драматургіі сваёй экстравагантнасьцю і камэрцыйнасьцю — квіток каштуе 8 тыс. рублёў. Але, як абяцаюць у тэатры, за гэтыя грошы вы ня толькі станеце багацейшыя на новыя ўражаньні, але й пакаштуеце сапраўднае беларускае мачанкі й гарэлкі.

### "Стары Ольса" запрашае

**Усіх аматараў сярэднявечнае беларускае музыкі ды папросту ахвотных пачуць, як гучыць дуда, а таксама іншыя старажытныя інструмэнты, гурт "Стары Ольса" запрашае на свой канцэрт.** Адбудзецца ён 10 кастрычніка ў ліцэі пры БДУ (вул. Ульянаўская, 8). Пачатак а 19-й. Уваход вольны.





АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

**Мікола Кісель**

# НОБЭЛІ 2002

### фізіялёгія ды мэдыцына

## Прэмія за ген сьмерці

Галоўным героем дасьледаваньняў стаўся маленькі чарвячок-нэматода *Caenorhabditis elegans*. Ён зусім маленькі — каля 1 мм удоўжкі, але лічыцца ці не самым пасьпяховым арганізмам, бо сустракаецца ва ўсіх экасыстэмах. Ён таксама першая істота, чый геном цалкам разгаданы. У сваіх дасьледаваньнях яго выкарысталі адразу тры навукоўцы: Сыднэй Брэнэр (ЗША), Робэрт Горвіц (ЗША) ды Джон Салстан (Вялікабрытанія). Яны й атрымалі Нобэлеўскую **прэмію ў галіне фізіялёгіі ды мэдыцыны** за адкрыцьці ў сфэры генэтычнага кіраваньня разьвіцьцём органаў ды запраграмаванай клеткавай сьмерці.


Сыднэй Брэнэр

**Сутнасьць.** Прасачыць працэсы клеткавага нараджэньня й адміраньня ў вышэйшых істотаў пакуль цяжка з-за вялікай колькасьці клетак, таму навукоўцы й абралі для дасьледаваньняў нэматоду. Яны назіралі за чарвяком ад самага пачатку, калі ён складаўся з адной клеткі, да ягонай сьмерці, калі арганізм меў 959 клетак. Выявілася, што ў розных нэматодаў клеткі дыфэрэнцыяваліся ды зьнішчаліся аднолькава, нібы па праграме. Вывучаючы нэматоду, ляўрэаты давялі, што тымі працэсамі кіруюць так званыя "гены сьмерці". Ёсьць яны і ў чалавека.

Усе нашыя клеткі вядуць радавод ад аплодненае яйцаклеткі. Яны дыфэрэнцыююцца, каб будаваць тканкі, органы, кроў і г.д. Кожны дзень у чалавечым арганізьме ўзьнікае каля трыльёна клетак і прыкладна столькі ж зьдзяйсьняе запраграмаванае "самагубства". Гэтак цела падтрымлівае іхную колькасьць у тканках на патрэбным узроўні. Дзякуючы гэтаму, напрыклад, у зародка чалавека зьнікаюць перапонкі між пальцамі. Зьнішчэньне клетак ідзе кантралявана, таму яно атрымала назву запраграмаванае клеткавае сьмерці.


Робэрт Горвіц

**Карысьць.** СНІД, нэўрадэгенэратыўныя захворваньні, інфаркт суправаджаюцца масавай клеткавай сьмерцю. Рак, наадварот, не дае клеткам самазьнішчацца. Магчыма, атрымаецца запускаць ці прыпыняць мэханізм клеткавай сьмерці, каб лячыць людзей, ці адшукаць генэтычныя спосабы змаганьня са старэньнем.


Джон Салстан

### фізыка

## Прэміі за нэўтрына і тэлескоп

Нобэлеўскую прэмію **ў галіне фізыкі** падзялілі на дзьве часткі. Першую атрымалі астрафізыкі Рэйманд Дэвіс (ЗША) ды Масатошы Кашыба (Японія) за тое, што злавілі касьмічныя часьцінкі-нэўтрына.

**Сутнасьць.** Чаму Сонца сьвеціць ды грэе? Сто гадоў таму лічылі, што яно патроху губляе сваю вагу, з-за чаго вызваляецца гравітацыйная энэргія. Але ў такім разе Сонца мусіла б згаснуць праз 20 млн. гадоў пасьля свайго нараджэньня. (А Зямлі ўжо 5 млрд. гадоў.)

Найбольш распаўсюджаная рэакцыя на Сонцы — пераутварэньне вадароду ў гелій. Атам апошняга мае меншую масу, чым чатыры атамы вадароду, зь якіх ён утвараецца. Славутая формула $E=mc^2$ дала нагоду казаць, што менавіта падчас гэтага пераўтварэньня вызваляецца сонечная энэргія — вылятаюць дзьве часьцінкі-нэўтрына.

Нэўтрына настолькі малыя, што амаль не сутыкаюцца з матэрыяй. Кожнае імгненьне праз нас пралятаюць трыльёны нэўтрына, не пакідаючы ніякага сьледу. З трыльёна сонечных нэўтрына толькі адзін натыкаецца на перашкоду, летучы скрозь нашую плянэту. Навукоўцы, якія атрымалі прэмію, здолелі налавіць тых часьцінак. Рэйманд Дэвіс сканструяваў дэтэктар нэўтрына — ёмістасьць памерамі 14,6 на 6,1 м з 600 тонамі вадкасьці, схаваную пад зямлёй у шахце. За 30 гадоў працы ён злавіў 2 млн. нэўтрына з Сонца. Масатошы Кашыба пацьвердзіў ягоныя вынікі, карыстаючыся іншым дэтэктарам у Японіі. Ён злавіў ня толькі сонечныя нэўтрына, але й тыя, якія ўтварыліся пасьля выбуху супэрновай зоркі ў галяктыцы Вялікае Магеляна Воблака каля Млечнага Шляху за 170 млн. сьветлавых гадоў ад нас. У дэтэктары Кашыбы спыніліся 12 нэўтрына з $10^{16}$ (10 000 000 000 000 000, або квадрыльёна), якія прайшлі скрозь яго.


Рэйманд Дэвіс

**Карысьць.** Адкрыцьці навукоўцаў далі штуршок для разьвіцьця астраноміі нэўтрына. Калі ж выявіцца, што нэўтрына маюць масу, давядзецца зьмяняць усю мадэль элемэнтарных часьцінак ды ўяўленьні пра агульную масу космасу.


Масатошы Кашыба

Другую частку прэміі далі амэрыканцу італьянскага паходжаньня Рыкарда Джаконі (ЗША), чые распрацоўкі дапамаглі адкрыць крыніцы касьмічных рэнтгенаўскіх хваляў.

**Сутнасьць.** Зарэгістраваць тыя хвалі можна толькі з космасу, бо зямная атмасфэра іх паглынае. У 1959 г. Джаконі сканструяваў рэнтгенаўскі тэлескоп, які паставілі на ракету. З дапамогаю яго выявілася, што рэнтгенаўскія хвалі выпраменьвае ня толькі Сонца, але й іншыя зоркі, часьцей за ўсё падвойныя, у якіх адна зорка кружляе па арбіце вакол іншай, нэўтроннай зоркі ці "чорнай дзіркі".

**Карысьць.** Калі звычайныя тэлескопы паказваюць касьмічныя аб'екты ў натуральным сьвятле, дык рэнтгенаўскія тэлескопы дазваляюць бачыць зусім іншую карціну сьвету, сфармаваную рэнтген-хвалямі. У 1999 г. на арбіту выйшаў прынцыпова новы рэнтгенаўскі тэлескоп, сканструяваны Джаконі, які даў новыя зьвесткі пра космас.

### хімія

## За макрамалекулы і рэзананс

Усе жывыя арганізмы маюць аднолькавыя тыпы вялікіх малекулаў — так званыя макрамалекулы. Калі ўявіць сабе працэс разьвіцьця клеткі як здымкі фільму, дык ДНК — рэжысэры, а пратэіны — галоўныя акторы. Але дастаткова крыху зьмяніць структуру пратэінаў, як яны пачынаюць працаваць зусім па-іншаму. Пратэіны вядомыя здаўна, але іх дачыненьні зь іншымі рэчывамі пачалі вывучаць толькі апошнім часам.


Курт Вютрых

Нобэлеўскую **прэмію ў галіне хіміі** далі за разьвіцьцё мэтадаў ідэнтыфікацыі й структурнага аналізу біялягічных макрамалекулаў. Першую яе частку атрымалі Джон Фэн (ЗША) ды Каічы Танака (Японія) за сваю працу ў галіне масавай спэктрамэтрыі макрамалекулаў.

**Сутнасьць.** Масавая спэктрамэтрыя дае магчымасьць вызначыць, зь якім рэчывам мы маем справу, па ягонай масе. Допінгкантроль, тэсты на наркотыкі, праверка харчовых страваў на рэчывы, якія яны ўтрымліваюць, — гэта таксама масавая спэктрамэтрыя.


Каічы Танака

Ляўрэаты прэміі прыдумалі нескладаныя танныя спосабы, якія дапамагаюць вызначаць масу малекулаў з дапамогай электрычнасьці ды лязэру.

**Карысьць.** Раней распрацоўваць лекі даводзілася доўга з-за таго, што цяжка было вызначыць склад хімічных злучэньняў. Цяпер адна лябараторыя зможа аналізаваць некалькі сотняў злучэньняў штодня. Можна будзе раней дыягнаставаць зьяўленьне ракавых пухлінаў, прасьцей зробіцца кантраляваць ежу на наяўнасьць атруты.

Другую палову прэміі атрымаў Курт Вютрых (Швайцарыя), які ўдасканаліў мэтад ядравага магнітнага рэзанансу.

**Сутнасьць.** "Вялікімі" пратэіны можна назваць толькі ўмоўна (каб атрымаць масу малекулы гемаглябіну ($10^{-19}$ г), падзяліце 1 грам на мільярд, потым зноў на мільярд і ад выніку вазьмеце 10-ю частку). Разглядзець малекулу нават пад самым магутным мікраскопам цяжка. Мэтад К.Вютрыха дазваляе атрымліваць дакладныя рухомыя выявы пратэінавых малекулаў.

**Карысьць.** Гэта дапаможа, напрыклад, выяўляць каровіна шаленства. Прыдасца мэтад і падчас распрацоўкі новых лекаў: многія лекавыя малекулы створаныя адмыслова дзеля таго, каб працаваць як ключ, які падыходзіць да пратэінавага "замка". Дакладныя веды пра "замок" дапамогуць хутка знайсьці адпаведны "ключ".


Джон Фэн

### эканоміка

## Прэміі за экспэрымэнты і чалавечыя твары

Традыцыйна эканамічная навука разглядала чалавека ў якасьці "homo economicus", — істоты, што дзейнічае рацыянальна, адпаведна свайму інтарэсу. Яшчэ лічылася, што ў эканоміцы навукоўцы абапіраюцца на назіраньні за навакольным сьветам, а не на экспэрымэнтальныя дадзеныя. Аднак гэткія погляды былі радыкальна зьмененыя, не ў апошнюю чаргу дзякуючы ляўрэатам Нобэлеўскай **прэміі ў галіне эканамічнай навукі** — Вэрнану Сьміту (ЗША) ды Даніэлю Канэману (ЗША/Ізраіль).


Даніэль Канэман

Вэрнан Сьміт атрымаў прэмію за тое, што зрабіў лябараторны экспэрымэнт інструмэнтам эмпірычнага эканамічнага аналізу, асабліва ў вывучэньні альтэрнатыўных рынкавых мэханізмаў.

**Сутнасьць.** Вэрнан Сьміт пачаў ладзіць экспэрымэнты, у якіх удзельнічалі несапраўдныя прадаўцы ды пакупнікі. Дадзеныя, атрыманыя падчас экспэрымэнту, былі амаль ідэнтычныя з тымі, што давала эканамічная тэорыя на грунце шматгадовых дасьледаваньняў рэальнага рынку. Дасьледаваў ён і прычыны, з-за якіх вынікі экспэрымэнтаў не заўсёды супадаюць з рэальнымі.


Вэрнан Сьміт

**Карысьць.** Дасьледаваньні Вэрнана Сьміта дапамогуць эканамістам правільна ладзіць экспэрымэнты, каб зь вялікай доляй верагоднасьці прагназаваць, што адбудзецца на рынку ў той ці іншай сытуацыі. Эканамічны экспэрымэнт не такі дарагі, як дасьледаваньне рэальнага рынку ды больш прыбліжаны да сапраўднага жыцьця, чым тэарэтычныя падлікі.

Даніэль Канэман атрымаў прэмію за тое, што інтэграваў псыхалягічны досьвед у эканамічную навуку.

**Сутнасьць.** Ён давёў, што чалавек — не машына, якая кіруецца адно рацыянальнымі развагамі, калі справа ідзе пра грошы. Асабліва ірацыянальныя матывы чалавек праяўляе тады, калі яму даводзіцца нешта вырашаць, — звычайная сытуацыя для эканомікі. Напрыклад, інвэстар робіць высновы, што ягоны мэнэджэр больш кампэтэнтны за іншых супрацоўнікаў, калі той два гады запар удала разьмяшчае акцыі. Аднак з пункту гледжаньня тэорыі імавернасьці гэткая выснова няслушная. Разам з тым, такія псыхалягічныя матывы робяць фінансавыя рынкі асабліва нестабільнымі й зьменлівымі.

**Карысьць.** Канэман распрацаваў уласную тэорыю прыняцьця рашэньняў ва ўмовах няпэўнасьці. Яна тлумачыць, чаму людзі часьцяком едуць у далёкі супэрмаркет, каб набыць там тавар зь неадэкватна малой зьніжкай, ці адмаўляюцца набываць менш рэчаў нават тады, калі бачаць, што сталі жыць горш, чым раней. Гэтая тэорыя дапаможа ўлічваць "чалавечы фактар" пры аналізе важных эканамічных падзеяў ці прыняцьці адказных рашэньняў.

**Алесь Кудрыцкі**

# Андрэй Хадановіч

## Купляйце ўкраінскае!

Працяг са старонкі 1.

“Маці гарадоў рускіх” Кіеў пакідае незабыўнае ўражаньне. Вялізарныя памеры й адносна вузкія вуліцы ствараюць выбухованебясьпечную сумесь і ўвесь час пагражаюць транспартнымі заторамі. Зь якім запасам у часе ні прызначай сустрэчу, усё адно не пасьпееш: тэрытарыяльныя адлегласьці о-го-го! Здавалася б, тут для пасажыраў усе выгоды: тры лініі мэтро, да халеры адносна танных маршрутных мікрааўтобусаў, што курсуюць праз кароткія інтэрвалы часу. Усё адно не хапае! Таму “маршруткі” набіваюцца як нашыя тралейбусы ў гадзіны пік, а кіеўскія тралейбусы!.. Раз-пораз на прыпынку, калі даводзілася прапускаць чарговы бітма набіты транспартны сродак, у мяне вырывалася шчырае: “*Як тебе не любити, Києве мій!*” А пасьля ўспаміналася з майго ўлюбёнага Сяргея Жадана: “Украіна — гэта вялікая рака, перасячы якую абломваюцца нават птахі й далятаюць адно да сярэдзіны”.

Апошняе — ня толькі жарт. Прамежкавасьць, сярэдзіннасьць, “палавіннасьць” пройдзенага Ўкраінаю й Кіевам шляху



адчуваецца ва ўсім. Сьветлае сацыялістычнае мінулае й яшчэ сьвятлейшая капіталістычная будучыня суіснуюць на кожным кроку. Да болю пазнавальны й родны сэрцу менчука “сталінскі ампір”. Грунтоўна, на вякі зробленыя будыніны з шматмэтровымі літарамі надпісаў наверсе. Але ўвага: зьмест надпісаў нагадвае, што ты ня ў Менску. Там, дзе ты прызвычаіўся чытаць: “Подзьвіг народу несьмяротны”, красуецца рэкляма піва “Славуціч”. Купляйце ўкраінскае!

**Андрэй Хадановіч, Кіеў—Менск**

### мудрагелістыя санэты

#### Прадмова

Сучасныя страшылкі. *Modern Sagen.*
Ад жаху валасы ўстаюць старчма.
Тут рэй вядуць Мярэсьеў і Карчагін.
Ты зь імі не сябруеш? А дарма!

Ты прагнеш вагін — мусіш мець
“фальксваген”.
(Маркотнейшай аповесьці няма.)
Чым Брагін, лепш наведаць Капэнгаген,
хоць кажуць, што і Данія — турма.

Увесь сьвет — тэатар. Напачатку
шатня.
Пасьля буфэт, грымёрка... і вар'ятня,
дом творчасьці, дзе кожны — пацыент,

што трапіў на курорт амаль задарам
і дзень пры дні руплівым санітарам
дыктуе свой вялікі тастамэнт.

#### Няўлоўныя мсьціўцы

Нам калыханкай сталіся здаўна
гарматны гул і кулямётны строкат.
Мы часьцяком спыняліся за крок ад
сьмяротнай бліскавіцы й перуна.

Паслоў варожых пасылалі на...
Блукалі па балотах, жэрлі блёкат,
пілі атруту й засыналі ўпокат —
і кожны абуджаўся давідна!

Бяз мараў пра хвалу і ўзнагароду
жыцьцё аддаючы ў імя народу,
на вогнішча ішлі, як Жанна д'Арк.

Бо кожны з нас да звышгеройства
звыклы,
і вораг часта бачыў нашы іклы,
заходзячы ў мясцовы заапарк.

#### Несьмяротнасьць

Мілосныя аблуды — у абладзе
юрлівых пацалункаў (балазе
ў кандытарскім дыхтоўным перакладзе
на мову саладжэнікаў — бэзэ).

Шампанскае і кельнэр-шымпанзэ,
а потым саксафоннае суладзьдзе
ў самотнай нараджаецца тузе
з брунатных вуснаў — сола
ў шакалядзе.

І раптам — долу, каб разьбіцца
ўшчэнт...
А ўнізе ўжо расьцягваецца тэнт
пажарнікамі, і сышлося мноства

пакліканых сустрэць адно цябе
амонімаў эгіпэцкага боства
ў касках на задумлівым ілбе.

нябачная бібліятэка

## “Хрызаліда, кукалка, каўшанка...”

Фігура Андрэя Хадановіча аб'ядноўвае ў сабе дзьве зьявы: эмансыпацыю беларускае паэзіі ад клясычна-вясковага кораню і ператварэньне паэта зь беларускага інтэлігента ў беларускага інтэлектуала. Што праўда, пакуль у ювэнільнай стадыі:

Ты сядзіш, схаваўшыся ў альтанцы,
пішаш мудрагелістыя станцы.
Вязень слова, кемлівы штукар,
апалонік, малады Ікар.

*“Руплівец культуры”*



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

У ягонай даволі аб'ёмнай кнізе “Лісты з-пад коўдры” (што выйшла па-ўкраінску, а на беларускай мове існуе ў электронным варыянце) я не сустрэў ніводнае вясковае асацыяцыі. Хадановіч — гарадзкі паэт, “шараговы насельнік вялікага места” (“Падвойны агент”). Горад гэты ня мае выразнага геаграфічна-архітэктурнага аблічча. Душа паэта льне да атмасфэры гарадзкога жыцьця, а не да матэрыяльных сымбаляў. Горад — гэта месца, дзе чалавек можа кахацца, складаць вершы, філязофстваваць, капацца ў сабе, піць напрапалую, вар'яцець і нават учыніць самазабойства. Інакш кажучы — прысьвяціць сябе *ня-працы*, не губляючы пры гэтым сродкаў для існаваньня і повязі з грамадзтвам.

Пачуцьці Хадановіча можна параўнаць зь сярэднявечным “гарадзкое паветра робіць чалавека свабодным” або з сучасным “*don't worry, be happy*”; што праўда, выяўленьне іх даволі стрыманае і з пэўнай доляй горычы.

Горад-машына злаваў Багушэвіча і захапляў Багдановіча, але застаецца амаль незаўважным для Хадановіча. Ягонае места — горад ня фабрыкаў, а выбрыкаў, а таксама кастальскае цішыні і асаблівай самоты, што дораць нашаму сучасьніку жыцьцё ў мэгаполісе й праца ў акадэмічных колах. Але гэтае пачуцьцё ня новае. Хваласьпеў месту Ўрук пакінуў нам аўтар міту пра Гільгамэша (3,5 тыс. год да н.э.), тысячы пёраў услаўлі велічны Канстантынопаль, Рым, Парыж, Лёндан, Дублін... Радасьць месьціча, пачуцьцё вызваленьня ад абавязку вясковае штодзённае няўдзячнае фізычнае працы трываюць нязьменнымі ад першых крокаў урбанізацыі.

Гарадзкое жыцьцё з гэтага гледзішча часьцяком паўстае ў выглядзе карнавалу. Будзённыя справы функцыянаваньня гарадзкое гаспадаркі абмінаюць службу музаў. Удзел у жыцьці места можа быць лёгка абмежаваны амаль неадчувальным мінімумам кшталту хаджэньня па вуліцах і наведваньня крамы.

Ад сваіх заходніх, перадусім французскіх настаўнікаў-паэтаў Хадановіч узяў рамантычнае ўсьведамленьне наяўнасьці ў карнавале ня толькі сьветлага, але й цёмнага бакоў. У Хадановіча цёмны бок мэдаля заўсёды праглядаецца праз бляск сьветлага, кладучы на малюнак глыбокія цені. Мо адсюль захапленьне легендай пра Фаўста і вобразным шэрагам шабасу, якім паэт прысьвяціў не адзін твор. Ад французаў ён узяў слова “макабрычны”, ад немцаў — напаўненьне ягонага змрочнага сэнсу матэрыяй будзённасьці:

Красуня на мятле й рагаты волат
мілуюцца й рагочуць па-людзкі,
твой сябар Мэфістофэль (ён жа — Воланд).
Што за народ? Вядома ж, землякі.

*“Бессань у ноч Вальпургіі”*

Няма ў Хадановіча й пэйзажаў. Ён ня цэніць натуральнага, самохаць выраслага з глебы, вады і сонца. Яго вабяць рэчы рукатворныя: *артэфакты і гамункулы.* Рэальна існыя асобы саступаюць у ягоных творах першынство стварэньням чалавечай фантазіі: кніжным і міталягічным пэрсанажам.

Моўная стыхія тэкстаў Хадановіча жывіцца падручнікамі ды малатыражнымі слоўнікамі. Наймацнейшы аргумэнт беларускіх мастакоў слова “ў нашай вёсцы гэтак кажуць” немагчыма ўжыць да Хадановіча — няма вёсак, дзе б гаварылі па-ягонаму:

Вось толькі не зламі сабе хрыбет,
калі лунацьмеш кірляю на крылах
кірыліцы — кароль, фігляр, факір
з дэльфійскаю каронай набакір —
абраньнік муз, што любяць тупарылых.

*“Art poétique”*

Няма пушчаў і гоняў, якія натхнілі паэта на верш з назваю ад Вэрлена, эпіграфамі ад Аляксандра Пушкіна і Эзры Паўнда ды лексыкай, настоенай на слоўніках Ластоўскага ды Станкевіча. Сьведкамі натхненьня бачацца кастальская кельля дасьледніка, унівэрсытэцкая аўдыторыя, бібліятэчная заля.

Прыгадаем традыцыйныя для беларускай літаратуры ўзьнёслыя эпітэты да слова “*слова*”: спавядальнае, жывое, роднае, крынічнае, жыватворнае і г.д. Слова Хадановіча пранізьлівае, корсткае, пернае, аскомістае, учэпістае — ані каліва “традыцыйнае” лагоднасьці. Лексыка пагарадзкому сынкрэтычная, сувязі паміж словамі — падкрэсьлена расхістаныя. Паэт захоплена гуляе сэнсамі, ствараючы нечаканыя спалучэньні:

*УВАГА*
ваганты
не вагаюцца
ў вагоне

Паэт надае вялікае значэньне будзённым людзкім учынкам. Магія, сьвятасьць, хараство, цуд існуюць у разнастайнай людзкой дзейнасьці, адным зь відаў якое зьяўляецца паэзія.

вунь мінак юнак недарэка
мутны погляд шчасьлівы твар
прэцца ў пошуках чалавека
чырванее пад вокам ліхтар

*“***кожны старт азначае фініш”*

У сумных постацях карнавалу гарадзкіх будняў паэту бачацца пэрсанажы найбуйнейшага калібру, у найзвычайнейшых справах вечна паўтараецца поўны таямнічага і высокага сэнсу рытуал:

вось Бальтазар з батонам,
вось Мэльхіёр зь бідонам —
на пацеху мадоннам
крочаць “Раствора-Бэтонным”.

*“Раство на “Раствора-Бэтонным”*

У гэтым мне бачыцца своеасаблівае выбаўленьне Хадановіча, паратунак ад інтэлектуальнай чэрствасьці, якая адштурхоўвае ў тэкстах, скажам, Борхеса.

Сёньня думка Хадановіча хутчэй парадаксальная, чымся глыбокая, фраза — хутчэй экстравагантная, чымся прыгожая, фармулёўка — хутчэй кідкая, чымся дакладная, пачуцьцё ж — сублімавана-інтэлектуальнае. Моўныя гульні прыводзяць на памяць студэнцкія гады, калі гэтым бавіцца ці ня кожны. Урбаністычная атака на нацыянальныя паэтычныя каноны таксама нагадвае юнацкі бунт. Але два вершы — “Раство на “Раствора-Бэтонным” і “Калыханка для маладога літаратара” — дазваляюць казаць пра сталеньне паэта. Аўтар паступова вызваліўся ад юнацкага пачуцьця несьмяротнасьці, адчуў і перадаў чытачу разуменьне першаснасьці жыцьця перад макабрычнымі прывідамі, штохвілінную пагрозу жыцьцю й неабходнасьць яго бараніць перад “халоднымі крыламі скразьняку” ды іншымі жыцьцёвымі нягодамі.

Я ня згодны, што асоба Хадановіча-творцы канчаткова сфармавалася і больш нічым нас ня зьдзівіць. Тужлівае расстаньне з маладосьцю, якім поўняцца “Лісты з-пад коўдры”, павінна некалі скончыцца — і мы пабачым новага Хадановіча, які злучыць свой інтэлектуальны багаж і творчы патэнцыял з больш сталай філязофскай пазыцыяй. Не арыстакрата—калекцыянэра рыфмаў, не лексычнага плэйбоя-эрудыта. Магчыма — паэта, магчыма — празаіка, магчыма — выдатнага перакладчыка. Магчыма — ...? *Dum spiro — spero*. Бо ёсьць на што.

**Даніла Жукоўскі, Горадня**

### Жадан & Хадановіч

**17 кастрычніка а 18-й у актавай залі Беларускага гуманітарнага ліцэю (вул.Кірава, 21) адбудзецца творчы вечар вядомага ўкраінскага паэта Сэргія Жадана.** У рамках акцыі — прэзэнтацыя кнігі вершаў Андрэя Хадановіча “Лісты з-пад коўдры”.

*Памяці Уладзімера Караткевіча*

**Васіль Быкаў**

# Мурашкі


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Ніколі і нікому зь зямных істотаў ня бачны Пан Бог сядзеў на камяністым пагорку ля здаўна прывабнага для яго Тывэрыядзкага возера і стомленым позіркам азіраў бязьлюднае наваколле.

Ён апусьціўся на зямлю ў апошнюю суботу ліпеня. Пералёт ад плянэты Сырыюс-7z быў нялёгкі нават і для Пана Бога — магнітныя буры каля Юпітэру, д'ябальская гравітацыя ў раёне Вялікай Чорнай дзіркі, метэарытны дождж з нуклеарным градам па ўсёй паласе Млечнага шляху. Думаў, што ўжо на Зямлі так ня будзе, на Зямлі павінна панаваць ціша ды лагода і стомлены Пан Бог нарэшце адпачне.

На Зямлі ён даўно ўжо ня быў, заняты тытанічнымі справамі ў іншых сусьветах, меркаваў, што зямляне няблага абжыліся безь яго і Пан Бог ім непатрэбны. Паводле свае натуры ён быў талерантны і дапушчаў часам такое, што і ня трэба было б дапушчаць. Але ж ён пакінуў тут не якіх кузурак — стварыў адмысловых істотаў *Гома сапіенс* — у асобах дзяўчыны Евы і хлопца Адама, надзяліў іх прыгажосьцю і лагодай. Ужо яны павінны былі палагодзіць зямное жыцьцё ў райскім куточку Сусьвету. Ды, відаць, памыліўся. Не наладзілі нічога ягоныя *сапіенсы*, а тое прыўкраснае, што ён ім пакінуў, збаёдалі бяз рэшты. Як Пан Бог прачытаў у Нябесных сфэрах, шмат прыкрага адбылося на Зямлі за якіх пару мільёнаў гадоў ягонай адсутнасьці, і тое напаўняла Боскую істоту нязбыўнай скрухай і самотай.

Найперш гэтая пакінутая ім на зямной гаспадарцы парачка адцуралася Боскага запавету, спакусілася на грэх, і людзтва пачало бурна пладзіцца. Што пладзіцца, тое хай сабе, калі б разумна і па добрасьці. Дык жа не! Адамавы дзеці ўдаліся зусім не ў памяркоўнага Адама, а хто ведае ў каго. Яшчэ змалку пачалі дурэць і сварыцца, а падросшы, зусім перасталі слухаць бацькоў, навучыліся лайдачыць і піць — не ваду нават, а нейкае д'ябальскае пітво, названае віном. Пан Бог ніякага віна на зямлі не рабіў, хіба пасеяў дзе-нідзе салодкі вінаград — для малых і жанчынаў; мужчыны ж павінны былі паляваць на дзічыну і харчавацца мясам. Дык не, найперш мужчынам захацелася віна, якое рабіла іх дурнямі і натхняла на бойкі. А дзе бойкі — там кроў і рабаўніцтва, якое стала дужа прыбытковым, хоць і зусім ня Боскім промыслам. Хто болей забіваў, той рабіўся багацейшым, болей падграбаў пад сябе іншых і прагнуў улады. Стварылася нярэўнасьць, зайздрасьць да больш удачлівых, зьявілася варажнеча. Зайздрасьці і варажнечы спрыялі жанчыны, якія мудра ўхіляліся ад забойства, але ўмела натхнялі на яго мужчынаў, маючы з таго сваю карысьць.

Жыхарства на Зямлі расло, і разам зь ім распаўзаліся па абшарах варажнеча і забойства, якія назвалі войнамі.

Сьпярша ваяваў род з родам. Адзін род дашчэнту выбіваў іншы род, мяркуючы, што, перамогшы, адпачне ў міры. Дзе там! На зьмену пераможанаму роду паўставаў іншы, пакрыўджаны, якому даўно не хапала выпасу для козаў, і ён імкнуўся захапіць суседні. Як усе выпасы, пагоркі і даліны аказаліся захопленыя, варажнеча і войны не спыніліся.

Аказалася, што некаторыя з плямёнаў маюць ня чорныя, а сьветлыя валасы, і зараз жа ўсчалася новая барацьба паміж чорна- і сьветлавалосымі. На той раз перамаглі сьветлавалосыя. Кінулі дзікім зьвярам трупы чорнавалосых і пачалі сьвяткаваць перамогу. Сьвяткавалі доўга і ўрачыста: здавалася, ворагаў паблізу не засталося. Але яшчэ ў час сьвяткаваньня самыя пільныя заўважылі, што хрысьціцца сьветлавалосыя неаднолькава — адны двума пальцамі, а іншыя нават трыма. Быў скліканы вялікі Сынкліт, які вырашыў, што хрысьціцца двума пальцамі няправільна, што за тое трэба караць. Двухпалыя пачалі ўпарціцца ва ўласным звычаі, і іх пачалі прасьледаваць: лавіць, саджаць у цямніцы, некаторых нават тапілі ў рэчках — на корм рыбам і ракам. Такім чынам амаль панішчылі ўсіх двухпалых, а тыя, каго ўтапіць не пасьпелі, перакваліфікаваліся ў трохпалых. Але тады за двухпалых заступіліся нейкія заморцы — ня так за людзей, як за нейкую выдуманую справядлівасьць. Пачалася вайна з чужынцамі. Сьветлавалосыя біліся ўпарта, некалькі гадоў, перасталі нават араць і сеяць, усчаўся вялікі мор, але спыніць вайну было нельга, бо вайну назвалі Сьвяшчэннай. Тая вайна выдалася самай доўгай, ёй было аддадзена некалькі пакаленьняў. Апошнія зь іх ужо і ня памяталі, з чаго ўсё пачалося, і, калі старыя казалі, што — праз пальцы, не маглі паверыць: такое глупства! Хай бы хрысьціліся як хацелі. Але ўсё роўна ішлі ў бой і гінулі, забіваючы ворагаў: спыніць вайну было нельга. Ведама, што пачаць вайну можа і дурань, а спыніць яе ня дадзена і Пану Богу.

Тая вайна сама скончылася, бо скончыліся сілы з абодвух бакоў. Сьветлавалосыя палічылі, што перамога на іхнім баку. Заморцы былі іншае думкі. Запанавала няпэўнае перамір'е. Бакі трохі спачылі і тады агледзеліся, што ваявалі ня ўсе аднолькава. Шмат загінула, іншыя зьнемагліся. Але знайшліся і такія, што нават забагацелі з вайны: занялі пасады, збудавалі шыкоўныя халупы пад шырачэзным пальмавым лісьцем, захапілі мяккія гамакі з сынтэтыкі, ад ворагаў навучыліся есьці ня палачкамі, як раней, а глыбокімі лыжкамі. Праз год пасьля той перамогі ў вялікай вайне пачалася ўнутраная вайна, ды такая лютая, што Пан Бог цяпер думаў, лепш бы ўжо гэтыя сьветлавалосыя стрывалі паразу. Кожны ненавідзеў іншага, брат рэзаў брата, дзеці цураліся бацькоў — пачуцьцямі кіравала варажнеча і зайздрасьць. Усе крычалі аб нейкай справядлівасьці, пра якую нічога ня чуў і ня мог зразумець таго слова нават сам Пан Бог. І ён дужа сумняваўся, што тое разумелі людзі, якія пралілі за яе столькі крыві.

Але во і грамадзянская вайна была скончаная. Справядлівасьці не дамагліся, затое парэзалі ці ня большую палову насельнікаў. Жывыя не спраўляліся хаваць мёртвых. А то і не хавалі — такая нянавісьць нават да мёртвых панавала ў народзе. І не хавалі б ніколі, калі б дух ад нежывых целаў ня быў гэткі нясьцерпны. А пахаваўшы, тут жа магілы раўнялі зь зямлёй, каб не засталося і знаку. (Пан Бог, аднак, усё бачыў, для яго ня трэба было адмысловага знаку.)

Былі і яшчэ вялікія, сьвятыя і татальныя войны — за землі, ідэі, нацыянальныя інтарэсы. Былі чатыры вайны за справядлівасьць, тры — за зьняважаную праўду і нават вайна супраць войнаў — можа, самая жорсткая сярод іншых.

У часе кароткага перадыху было выяўлена, што ўвогуле ваявалі дарма: войны ня вырашылі ніводнай праблемы, а толькі спарадзілі нямала новых. Але хто вінаваты? Ну вядома ж, вінаватыя мужчыны. Гэта зь іх ліку былі генэралы і палкоўнікі, якіх узнагароджвалі, шанавалі, якім сьпявалі правікнёныя гімны. А яны падвялі. Ужо жанчыны, напэўна б, ваявалі б лепш і хутчэй здабылі б перамогу. Усчаўся новы глябальны рух фэмінізму. Жанчыны падняліся на мужчынаў.

То ўжо, напэўна, была самая жахлівая і даўгая вайна на Зямлі. Змагаліся ня толькі зь людзьмі, але і зь людзкімі пачуцьцямі. Найгоршым лічылася праклятае абодвума бакамі пачуцьцё каханьня, праз якое і пачалася глябальная варажнеча. Закаханых пачалі караць самаю страшнай карай, для чаго давялося выдумаць электрычнасьць і расшчапіць атам. Кахаць было дазволена толькі аднаго чалавека — галоўнага Ката — і ягонае начыньне — шырокую сякеру. Сякеру, заўжды вострую і блішчастую, дык дужа кахалі жанчыны. Казалі, яе дотык да далікатных шыяў быў непараўнальна пяшчотны. Але як Кат пастарэў ад нялёгкае працы, каханьне да яго стала мала папулярным нават сярод жанчынаў. Ды й тое — каму патрэбны нямоглы кат? Быў кінуты лёзунг: каханьне замяніць на нянавісьць! Нянавісьць разумелася шырока і з абодвух бакоў была прызнаная за агульначалавечую маральную каштоўнасьць. Тое ні ў мужчынскім, ні ў жаночым лягеры не выклікала пярэчаньня і нават на пэўны час кансалідавала нацыю ў яе сьвятой барацьбе за вынішчэньне.

І во — вынішчыліся.

Учора Пан Бог паціху абляцеў на аблачыне ўсю зямлю і нідзе ня згледзеў нікога. Толькі сярод джунгляў ля Амазонкі варушыліся ў лістоце нейкія стварэньні, а так усе палі, пагоркі і выпасы былі пустэльныя — ні гарадоў, ні паселішчаў, ні якіх халупаў. Асабліва ўразіў Пана Бога кавалак сушы на поўнач ад рэчкі Прыпяці — такі быў слаўны куточак, не гарачы і не сьцюдзёны, некалі поўны зьверыны, рыбы і птушак, аддадзены неблагому працавітаму племю дрыгавічоў. І што сталася? Засыпаліся нуклеарамі, здурнелі і вымерлі. Во і рабі людзям дабро!

Стала зразумела Пану Богу, што ўсё трэба пачынаць спачатку.

Але каму пачынаць? Ясна, што людзям ня варта давяраць тое. Ужо аднойчы было даверана, і што атрымалася? Сорам адзін.

Порсткая чародка чорных мурашоў сноўдала каля босых, натружаных за даўгое жыцьцё Боскіх ног. Адзін муравейка, мабыць, самы зь іх сьмелы, борздзенька ўскараскаўся на Боскі вялікі палец і раздумна зьнерухомеў. Пан Бог сьпярша памкнуўся яго струхнуць прэч, ды падумаў: а можа, *гэтым*? Будуць сабе мітусіцца, рупіцца, бяз сваркі і варажнечы, грахоў ды эмоцыяў.

Сапраўды, варта было падумаць.

**2002**

Прэзыдэнт даў даручэньне. Як яно выконваецца?

# Усенародны пачын


Дарагі фрукт

"Людзі добрыя, прабачце, што да вас зьвяртаемся. Самі мы ня месныя, прыехалі здалёк, вельмі любім чытаць. Ахвяруйце хто колькі можа на будаўніцтва бібліятэкі..." Цыганка зь дзецьмі праціскаецца між пасажыраў трамваю. Даюць мала, бо не ў навіну: кампанія па зборы сродкаў на новы будынак Нацыяналкі цягнецца другі год. Дый даверу да "прыватных" зборшчыкаў няшмат. Выходжу на прыпынак. Сьцены заклееныя плякатамі з выявай Гаранта Канстытуцыі і надпісамі "А ты ахвяраваў?", "Даёш бібліятэку!". Загледзеўшыся, ледзь не трапляю пад ногі гістэрычнай дэманстрацыі маладзевага апазыцыйна-экалягічнага руху, што праходзіць пад лёзунгамі "Не хацім чытаць!", "Кніга — гэта забітае дрэва!". Але такія шэсьці — хутчэй выключэньне, чым правіла. Большасьць грамадзянаў ставяцца да ініцыятывы прыхільна. Ёсьць з каго браць прыклад: сам Гарант Канстытуцыі, які асабіста кіруе будаўніцтвам бібліятэкі, штодня а 6-й раніцы ўрачыста адмаўляецца ад дзённага заробку па першай праграме нацыянальнага радыё. Натхнёныя ягоным прыкладам дэпутаты палаты прадстаўнікоў аднаго разу вырашылі цэлы дзень ня есьці, а зэканомленыя сродкі пералічыць у фонд НБ. Ад сваіх дзённых заробкаў добраахвотна адмаўляюцца настаўнікі, дактары, інжынэры. А запачаткавала гэтую традыцыю не інтэлігенцыя, а калгасьнікі некаторых гаспадарак, што добраахвотна не атрымліваюць заробкаў зь вясны. Грошы ідуць бясконцым патокам.

Якая сума трэба для бібліятэкі — сказаць цяжка. Будаўнікі абяцалі падбіць бабкі налета. Зрэшты, калі зьбяром і крыху болей — лішнім ня будзе. Бо патрабуецца яшчэ будынак для часовага захоўваньня кніжак на час праведзеньня ў бібліятэцы сэзонных сельскагаспадарчых кірмашоў, дзякуючы якім НБ выйдзе на самаакупнасьць. Нельга ж, каб крыніцы ведаў ляжалі на вуліцы пад брызэнтам.

...Калі вяртаўся ўвечары з працы, у цёмным завулку падышлі трое і спыталіся: "А ты ахвяраваў на бібліятэку?" З радасьцю аддаў усе грошы.

**Сяргей Мікулевіч**





*Віншуем Пятра і Насту Варахобіных з узяцьцем шлюбу.*



*Сябры і сяброўкі*

## Сабачыя гісторыі

**Аднаму сабаку далі** Нобэлеўскую прэмію за ваду, якая працягвае сабачае жыцьцё бедным і нямоглым. А Граждан сказаў: "Хай павыступае... А мы яго ўсё адно любіць ня будзем. Ня нашанскі ён парань..."

**Адзін сабака стаў** Нобэлеўскім ляўрэатам. Пра гэта паведамілі па тэлебачаньні. Граждан выключыў тэлевізар і замкнуўся ў прыбіральні.

**Адзін сабака хацеў** стаць Нобэлеўскім ляўрэатам, але нікому пра гэта не казаў. А Граждан начамі гнаў самагонку.

**Аднаму сабаку не далі** Нобэлеўскай прэміі, і ён спакойна гэта перажыў. Граждану не далі прэміі за ўборку бульбы, і ён, напіўшыся, лётаў на трактары па вуліцы і душыў курэй.

**Аднаму сабаку прысьнілася** Нобэлеўская прэмія. Прачнуўшыся, ён узлызнуў і пайшоў на працу. Граждану часта сьнілася Нобэлеўская прэмія, ён пасьля гэтага іпоў у атэлье, фатаграфаваўся на памяць і доўга піў піва з бамжамі, распавядаючы, які ён быў прыгожы ў маладосьці.

**Адзін сабака** заўсёды здымаў шапку, калі бачыў на сьцяне партрэты Нобэлеўскіх ляўрэатаў. А Граждан даставаў з кішэні ржавы цьвік і спрабаваў дацягнуцца да партрэтаў, каб хоць аднаму вочы выдрапаць.

**В.Ш.**





## прыватныя абвесткі

### карткі

**Тэлефонныя карткі** (ужываныя) танна набуду. Ад 3 шт. Т.: 271-30-53

### віталньні

**Усіх Рагойшаў** таксама шчыра віншуюць Джым, Эля, Алена ды Аляксандра з Маргейта-на-моры, што ў Ангельшчыне.

**Студэнтачка БДМУ** віншуе Вадзіма, Вадзімавага сына, з прафэсійным сьвятам. Плённай Вам працы з намі — небаракамі!

**Жанну**, дачку Ўладзімера, віншуем з Днём настаўніка! Не сумуйце — мы заўсягды сэрцам з Вамі! Суполка "палескіх студэнтаў" зь Менску

**Дзякуем** пану Богу (Лёсу?..) за падарунак сустрэчы на жыцьцёвым шляху надзейнага сябра й найлепшага Настаўніка ангельскае мовы — Ж.Маліноўскай! Мы любім Вас, пані "Дасканаласьць!" Уладзь ды Ганка

**Сьвяткуй** "hotbet of crime and vidence" (ГДУ) — твае "муры" маюць гонар штодзень слухаць (!) і бачыць 21.д.У.Ц.! Зайздросьцім...

**Таня**, я цябе вельмі КАХАЮ!!!

**Шаноўная Сьвятлана**, вялікі дзякуй табе за "Гарадзенскія вандроўкі". Беларус з другога курсу

**Віншуем усіх выкладчыкаў** ліцэю з Днём настаўніка! 31 група

**Віншуем спн.Тацяну Магучаву** з Днём настаўніка! 31 група

**Аляксандра!** Віншуем з Днём народзінаў. Жадаем моцнага і шчырага каханьня, зьдзяйсьненьня ўсіх мараў! 22 група

### ідэі

**Хопіць "наркамаўкі"**, "тарашкевіцы" і інш. Жыве адзіны беларускі правапіс! Спадары філёлягі і літаратары, народ чакае!

**Новы закон** "Аб свабодзе сумленьня" надае праваслаўю статус асноватворнай рэлігіі? Дык мы, згодна зь ім, маем права будаваць у Беларусі храмы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ)! Хрысьціянін

**Слова** можа ўпрыгожыць ды натхніць, але можа скалечыць ды забіць! Каб гэта заўсёды памяталі песьняры-паэты ды журналюгі-прайдзісьветы!

**Беларусы-патрыёты** Бабруйску, Баранавіч, Барысава, Берасьця, Віцебску, Воршы, Гомелю, Жлобіна, Кобрыня, Магілёва, Менску, Мазыра, Новалукомлю, Наваполацку, Пінску, Полацку, Рэчыцы, Салігорску, Сьветлагорску! Прашу ацаніць вашыя мясцовыя тэлестанцыі з пункту гледжаньня прыхільнасьці да рынку, дэмакратыі, незалежнасьці і беларускасьці. Пісаць на адрас mihalca@tut.by

**А навошта нас** некаму заваёўваць? Акупанты ўсіх масьцяў спакойна прыяжджаюць у Беларусь і пашыраюць тут сваю лучнасьць з дапамогай мясцовага генэтычнага матэрыялу. Алесь

**Спадары Меч**, Адам, Zdac і іншыя "партызаны". Усё гэта толькі словы. Вольг.

**У нас шмат** гатовых бараніць Беларусь. Засталося пачакаць тых, хто пачне яе бараніць. Вольг.

**Нацыяналізм** і фашызм розныя, нават варожыя адна да адной зьявы. Пачытайце М.Бярдзяева, І.Ільіна, Э.Сьміта. Здань

**Беларусь**, здымі ружовыя акуляры! Тваю кроў п'е крывасмок, які з нахабнай усьмешкай кліча сябе "старэйшым братам". Здань

**Карыстацца "наркамаўкай"** — значыць слухацца бальшавікоў, якія ўвялі яе ў мэтах русіфікацыі й вынішчэньня беларускай нацыі. Здань

**Шчасьце** — гэта самаадчуваньне душы, што прыносіць каштоўнасьці ва ўвесь сьвет, а не адбірае ў сусьвету. Яно залежыць толькі ад таго, наколькі душа, дух рэалізуе сябе ў цьверджаньні дабра, прыгажосьці, ісцасьці творчасьцю кожнага дня (Екшыбараў)

**Уся палітыка** — гэта марнота марнотаў. Зямляне, давайце жыць дружна. Raisa

**Дзеячас Вадаліва**. Нас чакаюць жахлівыя зьмены. Нашая справа — удасканальвацца. Праводзіць сваім жыцьцём сьвет на зямлю (Екшыбараў)

**Досыць зьдзекаў** і прымусаў — Беларусь для беларусаў! Усяслаў Церашковіч

**Разам зь мясцовымі** "выбарамі" хочуць падсунуць "рэфэрэндум", каб пад выглядам "Канстытуцыйнага акту" зьдзейсьніць аншлюс Беларусі. Ніякіх "мясцовых выбараў", ніякіх "рэфэрэндумаў"!

### кантакты

**Батлейныя шпэктаклі** й граньне на дудах і хлетах у Вашых дамох а сядзібах, на Васькіх імпрэзах дый акцыях. Т.: 247-13-40 Запрасеця пана Скіргайлу

**Маладых пісьменьнікаў** і паэтаў запрашаем узяць удзел у літаратурным праекце. Т.: (273) 30-0-20, аб.885

**Завітайце** на абноўлены сайт Віталя Стахіевіча: http://sta-vit.narod.ru

**Новы імідж**: дэфіле, фотамайстэрства, макіяж, этыкет, акторскае майстэрства і інш. Т.: 222-79-67

**Кожны аўторак** ля помніка Янку Купалу (насупраць цырку) а 18-й. Зьбірайцеся, змагары за Вольную Беларусь! Беларуская партыя Свабоды

**Запрашаем** 5-гадовых дзетак у групу падрыхтоўкі да школы. Заняткі праводзяцца па-беларуску. Т.: 288-68-91, пасьля 21.00. Ігар і Ганна

**Прапануем для дзетак** 6—7 гадоў заняткі ўшу. Праводзяцца яны па-беларуску. Т.: 288-68-91, пасьля 20.00. Ігар і Ганна

**Ці ёсьць у нас** сапраўды дзейная партыя (арганізацыя) нацыянал-дэмакратычнага кірунку? Вольг.

### кнігі, музыка

**Аршанскі музэй У.Караткевіча** вельмі жадае атрымаць у падарунак (ці набыць) CD "Скрыпка дрыгвы". Т.: (02161) 20-0-26, 26-7-48

**Прадам і набуду** кнігі па археалёгіі, этнаграфіі й мовазнаўстве Беларусі й суседніх краёў. Т.: 227-72-26, Віктар

**Беларускія незалежныя часопісы** й кнігі ў Маладэчне. Літаратурны клюб "Клясыка XXI ст.". Т.: (8-0296) 70-74-01

**Куплю** "Слоўнік беларускай мовы" у 1 т. пад рэд. М.Бірылы. Т.: 236-13-38

**Сучасныя беларускія** часопісы і кнігі на любы густ. Замаўляйце і чытайце! Алег. А/с 714, 222120, г.Барысаў-1

### праца

**Танна распрацуем** сайт любой складанасьці. Т.: 211-85-85, аб.1976. E-mail:alehiv_st@tut.by

**Nabor łacinkaj** a kapijeŭkaj. Karehavańnie vadle syntezy purystyčnych kanceptaŭ. Т.: 247-13-40. Zaprasiecia pana Skirhajłu

**Шукаю працу** (граф. дызайн). В/адукацыя (маст.). Corel, Photoshop. Вольга. Т.: 241-16-84

Шчыра спачуваем Алесю Міхалевічу з нагоды сьмерці маці.
Сябры

## паштовая скрынка

**Уладзімеру М. з Маладэчна.** Артыкул пра Саюз пісьменьнікаў ня будзем друкаваць. Ён непасьлядоўны.

**Руслану Р. з Баранавіч.** У матэрыяле пра эўраінфляцыю мала цікавага для беларускага чытача.

**Лідзе А. зь Менску.** Вы пішаце пра другараднае, ігнаруючы галоўнае, абыходзіце пякучыя праблемы сучаснасьці.

НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.
E-mail: nn@promedia.by
On-line: www.nn.by



8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.
Наклад 3843.
Нумар падпісаны ў друк 9.10.2002.
Замова № 7217
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а